

НАР-КАМ-ЗЕМЛЯРОБСТВА БССР.

# ПЛУГ






1927
МЕНСК

СТУДЗЕНЬ

№ 1

# ЗЬМЕСТ



---

1-ая Дзярж. друк. Заказ № 1.156. У ліку 4.000 экз. Галоўлітбел № 23.789.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

III год выданьня Студзень 1927 г. № 1

# Два гады працы.

I.

Наша часопісь распачынае трэці год сваёй працы. У першыя два гады шмат увагі патрэбна было зьвяртаць на самае афармленьне кірунку с.-г. часопісі, характару тэм і наогул зьместу *).

Справа ў тым, што тры, чатыры гады назад і маладая савецкая аграномія толькі разгортвала сваю працу. Было мала вопыту ў грамадзкага агранома. Агранамічная служба да вайны і рэвалюцыі не пасьпела замацаваць сябе, а таксама і стварыць выпрацованых і праверанымх мэтадаў працы. З другога боку сельска-гаспадарчай літаратуры, як навукова-популярнай, так і асабліва сялянскай, якая ўлічвала-б прыродныя і эканамічныя асаблівасьці гаспадараньня ў Беларусі, амаль зусім ня было.

Але разам з гэтым тысячагодні земляробскі быт і с.-г. практыка беларускага селяніна, яго самадзейнасьць, а часамі і творчасьць маглі даваць багаты матар'ял, як для ацэнкі старых формаў гаспадараньня, так і для выяўленьня сярод іх найбольш прогрэсыўных, жыцьцёвых і новых. Праўда, увесь гэты багаты матар'ял быў расьцярушаны зьвязаны з гаспадаркаю і асобаю паасобных сялян розных раёнаў і сельсаветаў. Аб іх ведалі мо' толькі ў сваёй вёсцы.

Загэтым часопісь „Плуг" амаль з першых нумароў і паставіла сабе аднэй з задач зьбіраць і выяўляць багаты мясцовы с.-г. вопыт, лепшыя формы гаспадараньня і організацыі сялянскай гаспадаркі, як больш даходныя і культурныя.

Гэты мэтад у працы, як цяпер можна бачыць, на столькі аказаўся жыцьцёвым і правільным, што і часопісь стала больш сялянскай кніжкай з даволі практычным ухілам, як па кірунку, так і па зьместу. Падкрэсьлім гэта фактамі.

У першым 1925 г. на старонках часопісі даволі шырока апісвалася праца і гаспадарчыя дасягненьні сялян-культурнікаў, сялян-наватароў— гэтых бунтароў супроць трохполкі, бязкорміцы малых ураджаяў і г. д. У другім-жа годзе працы, калі ўсе мерапрыемствы дзяржавы па адбудове сельскай гаспадаркі разгарнуліся яшчэ шырэй, то часопісь „Плуг" разам з с.-г. сэкцыяй Інбелькульту і Дасьледчым Бюро ўзьняла думку аб вылучэньні з соцень і тысяч сялянскіх гаспадарак тых, якія займаюцца с.-г. досьледам і тым правяраюць, дапаўняюць і паглыбляюць працу нашых маладых дасьледчых станцый.

Такім чынам, стварыўся Інстытут Сялян-Дасьледчыкаў. Зараз ён лічыцца, як рэальны агрыкультурны фактар і Наркамзем у пэрспэк-

*) Першы нумар часопісі „Плуг" вышаў з друку 15-I—1925 г.

цыйным пляне вызначыў пэўную суму сродкаў на разгортваньне яго працы. У часопісі „Плуг“ сяляне-дасьледчыкі на працягу другога году мелі аддзел „Сялянскі досьлед“, дзе яны выдрукавалі звыш 50 артыкулаў аб сваёй працы і досьледах.

Але нельга абмежавацца толькі гэтымі прыкладамі. На працягу другога году працы часопісь „Плуг“ імкнулася высьвятліць і адказаць на цэлы шэраг пытаньняў зямельнай і сельска-гаспадарчай політыкі Савецкай Улады—у галінах земляўпарадкаваньня, мэліорацыі, барацьбы з трохполкаю і г. д.

Ня меншае значэньне надавала часопісь і пытаньням організацыі спэцыяльных галін сельскай гаспадаркі, асабліва тым, якія павялічваюць таварную частку ў сялянскай гаспадарцы, як жывёлагадоўля, садоўніцтва, пчалярства, тэхнічныя расьліны і інш. Пры гэтым сялянства знаёмілася з лепшымі прыёмамі с.-г. тэхнікі па ачыстцы і пратручваньню насеньня, вырабу поля, угнаеньню, догляду за расьлінамі і г. д.

У часопісі высьвятляліся таксама бягучыя і сэзонныя пытаньні, як час веснавой і асеньняй сяўбы, правядзеньне „Дня лесу“, „Дня ўраджаю“, сельска-гаспадарчых выставак, конкурсаў і г. д.

Даволі значны ўдзел прымала часопісь і ў справе агранамічнай прапаганды. На старонках часопісі апісвалася праца с.-г. гурткоў—гэтых „новых аграпунктаў“ і масавых школ сялянскай самадзейнасьці. Апісвалася праца мясцовых аграномаў (правядзеньне імі с.-г. курсаў, перавод сельскіх гаспадарак на шматпольле, пашырэньне траў і караньплодаў і інш.), апісвалася праца настаўнікаў у с.-г. кірунку, праца сялянпрактыкаў. Асабліва трэба падкрэсьліць, што ў другім годзе ў часопісі друкавалася каля 50 проц. артыкулаў сялян, якія пісалі аб працы і дасягненьнях у сваёй гаспадарцы і лепшых гаспадарак вёскі і раёну. Таксама „Плуг“ пераносіў у жыццё дасягненьні дасьледчых станцый і агранамічнай навукі.

Чым дапамагае і карысна часопісь „Плуг“ нашаму селяніну ў перабудове гаспадаркі—пералічваць ня трэба. Аб гэтым вельмі выразна сьведчыць шэраг сялянскіх лістоў да рэдакцыі, водзывы аграномаў і агранамічных нарад, крытычныя заметкі ў прэсе *) і тыраж часопісі. **)

II.

У трэцім годзе часопісі „Плуг“ патрэбна будзе яшчэ больш паглыбляць сваю працу. Патрэбна яшчэ больш зьвяртаць увагу на аб'яднаньне бядняцкіх сялянскіх гаспадарак праз коопэрацыйныя формы працы і больш шырокае выкарыстаньне імі крэдыту, агранамічнай дапамогі і г. д.

Другой неадкладнай задачай зьяўляецца дапамагаць павялічэньню таварнай часткі сельскай гаспадаркі пры павялічэньні яе агульнай прадукцыі, гэта значыць, што трэба ставіць зараз лёзунгам:

1) Сей і разводзь больш тое, што можна хутчэй прадаць.

2) Старайся ўдвоіць ураджай поля, павялічыць удой каровы, убойную вагу сьвіньні, авечкі і г. д. А для гэтага павялічвай запасы корму і гною, скарыстоўвай мясцовыя сродкі

---

*) „Асьвета“ № 5 1926 г., „Савецкае Будаўніцтва“ № 1 1926 г.. стр. 220.

**) У 1926 г. тыраж „Плуга“ хістаўся ад 6.000 да 10.300 экз. Значна спрыяла пашырэньню часопісі сярод сялян Цэнтральная сялянская газэта „Беларуская Вёска“.

ўгнаеньня, вывучай сваю працу разам з аграномам, дасьледчай станцыяй, вучыся на лепшых прыкладах другіх гаспадароў і організуй больш даходную гаспадарку.

Трэцім заданьнем трэба лічыць высьвятленьне такіх формаў гаспадараваньня, якія даюць больш працы нарастаючым рукам вёскі, як садоўніцтва, гародніцтва, пасеў караньплодаў, прадукцыйная жывёлагадоўля, і разам з гэтым здабываць больш сыр'я на крухмальні, сыраварныя і маслабойнныя заводы, а на рынак—сартовае насеньне, насеньне канюшыны, выкі, лубіну і г. д.

Усё гэта ў поўнай меры будзе толькі спрыяць інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі і яе большай даходнасьці.

III.

Калі далей паставіць пытаньне, як-жа хутчэй дабіцца перабудовы сялянскай гаспадаркі, як узьняць яе таварны бок і ўзмацніць коопэрацыйныя і соцыялістычныя элемэнты, то адказ адзін—спрыяць і дапамагаць правядзеньню ў жыцьцё ўсіх тых мерапрыемстваў, якія праводзіць Савецкая Ўлада па перабудове і разьвіцьцю сельскай гаспадаркі.

Тыя-ж задачы стаяць і перад кожным аграномам, асабліва вучастковым. Цяпер агроном ня можа быць толькі тэхнікам. Ён праводзіць у жыцьцё зямельную і с.-г. політыку Савецкай Улады, а для гэтага ён становіцца для новай вёскі і організатарам і эканамістам.

А ўсё гэта працу грамадзкай аграноміі ўскладніла ва многа раз. Дарэвалюцыйны агроном толькі і мог працаваць адным мэтадам аграпрапаганды: ён у лепшым выпадку заклікаў селяніна паляпшаць с.-г. тэхніку і зусім ня мог зачапіць гаспадарчых і організацыйных фактараў сялянскай гаспадаркі.

Цяпер-жа зусім пры іншых умовах працуе савецкі агроном. У сваёй працы ён зьвязваецца з крэдытам, сродкамі вытворчасьці, земляўпарадкаваньнем мэліорацыяй і г. д. Усё гэта агроном прыбліжае і зьвязвае з сялянскай гаспадаркай і тым зьмяняе яе організацыйныя формы і гаспадарчыя фактары.

Загэтым, у працы савецкага агронома, апрача мэтада аграпрапаганды, набывае аграмаднае значэньне і мэтад арганізацыйна-гаспадарчы, як больш складаны і адказны.

Часопісь „Плуг" лічыць сваёй задачай дапамагаць агроному ва ўсёй гэтай аграмаднай працы па організацыйна-гаспадарчай перабудове сялянскай гаспадаркі на соцыялістычны лад.

Дзеля гэтага часопісь запрашае працаваць на сваіх старонках усе нашыя дасьледчыя станцыі, с.-г. школы, сялян—дасьледчыкаў, гаспадароў-практыкаў, аграномаў, лесаводаў, вэтэрынараў і ўсіх іншых, хто можа быць карысным справе разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

Часопісь спадзяецца, што пры агульнай працы і падтрыманьні яна і далей будзе заклікаць яшчэ новыя тысячы сялян да с.-г. культуры і шпаркага ўздыму сельскай гаспадаркі ў Краіне Саветаў.




# Думка селяніна аб часопісі „Плуг“.

Я хачу выказаць сваю думку адносна нашай сялянскай часопісі, якая закончыла другі год сваёй працы.

Раней я чытаў «Сам себе агроном», але ў ім было шмат такіх артыкулаў, якія немагчыма было прыстасаваць да умоў нашай гаспадаркі. № 1925 г.—гэта першы нумар часопісі «Плуг», з якім я ўпяршыню пазнаёміўся. Гэты нумар у той самы дзень я прачытаў з пачатку да канца.

Зразу запахла селянінам і яго гаспадаркай. З гэтага часу я даставаў кожны нумар часопісі, перачытваў яго і знаходзіў шмат чаго новага, карыснага, што без усякіх перашкод магчыма было прыстасаваць да сваёй гаспадаркі.

Але на гэтым я ня спыніўся. У мяне ўзьнікае думка ня толькі чытаць часопісь, але і пісаць аб дасягненьнях сваёй гаспадаркі, хоць яны былі тады і невялічкія.

У жніўні 1925 г. пасылаю першы маленькі артыкул «Як я карміў сьвіней улетку». Пасылаючы заметку, было мала надзеі, што яе зьмесьцяць там, дзе пішуць прафэсары. Але ў хуткім часе прыходзіць вестка—«артыкул атрымалі—надрукуем». З гэтага часу я з падвоенай энэргіяй я стаў працаваць і пісаць у «Плуг» аб дасягненьнях у сваёй гаспадарцы.

К вясне пры дапамозе рэдакцыі атрымліваю штучнае ўгнаеньне для закладкі досьледаў і наогул рэдакцыя трымае цесную сувязь.

Далей я хачу застанавіцца на тэй карысьці, якую прынесла часопісь у нашай гаспадарцы. Першае, часопісь дапамагла нам выбраць шматпольны севазварот, навучыла карміць жывёлу, практычнымі парадамі дапамагла ў той час, калі мы будавалі новы скотны хлеў. А самае галоўнае, пры дапамозе «Плуга» я паставіў у сваёй гаспадарцы цэлы шэраг досыць цікавых вопытаў. Напрыклад, сёлетні год я залажыў цікавы вопыт з угнаеньнем пад азімае (дзялянкі):

| I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| гной | лубін | торф | супэрфосфат | тамасаўка | Кал. соль + тамас. | Кал. соль + тамас. і сал. | Кантрольная |

На далейшы час працы часопісі мае пажаданьні наступныя: разгортваць і паглыбляць пачатую працу сярод сялян-дасьледчыкаў; у аддзеле «Сялянскі досьлед» зьмяшчаць разам з артыкуламі сялян малюнкі з іх гаспадаркі. Праўда, хоць гэта сустрэне шмат перашкод, але малюнак яскрава падкрэсьліць дасягненьне таго ці іншага гаспадара.

У сувязі з тым, што актыўнасьць селяніна расьце, зьвярнуць больш увагі на навуковы бок справы. Дзеля гэтага пажадана адвесьці

ў часопісі аддзел, дзе высьвятляць навейшыя дасягненьні замежных стран і нашай краіны па ўсіх галінах сельскай гаспадаркі. Стварэньню гэтага аддзелу шмат чым могуць дапамагчы навуковыя працаўнікі Горацкай с.-г. Акадэміі.

Пажадана было-б, каб часопісь «Плуг» выходзіла два разы ў месяц, хоць і ў меншым ліку старонак.

Падобныя пажаданьні мне даводзілася чуць ад сялян.

Бракава, Магілеўскага раёну і акругі. Селянін **М. Тарасенка.**

---

## Да двухгодзьдзя часопісі „Плуг“.

Часопісь «Плуг» сваімі парадамі дапамагае ў працы па сельскай гаспадарцы. Ён зьяўляецца, як-бы аграномам і штомесячна заходзіць да гэтага гаспадара, які яго шануе і хоча палепшыць сваю гаспадарку, свой дабрабыт. Па парадах «Плуга» мы зрабілі цёплы хлеў для сваіх коняй і кароў, агнятрывалы (з гліны), парабілі дацкія кармушкі каровам, ставілі досьлед з бульбаю, атрымоўвалі добрыя ўраджаі, як збожжа, так і гародніны. Аграномаў у нас мала і рэдка якому ўдалося пабыць 1 раз у кожнай вёсцы за год. А часопісь «Плуг» бывае ў вёсцы 12 разоў у год, але і гэта мала. Мая думка і просьба, каб часопісь выходзіла 2 разы ў месяц. Тады яна яшчэ больш пашыралася-б сярод насельніцтва.

Я шмат з якімі чытачамі гаварыў наконт зьместу часопісі «Плуга» і ці зразумелы ён сялянству. Адказ адзін, што ён зразумелы і малапісьменнаму гаспадару; зьмест добры, але адзін адказ, што рэдка выходзіць. Па парадах «Плуга» нашы хутаранцы заўсёды сеюць адсартаваным насеньнем, рана аруць папар і шмат чаго іншага робяць.

За 2-х тыднёвую часопісь «Плуг»! За павялічэньне яго тыражу ў 3-ці год! Сел. **Карнейчык.**

Хут. Сарачынава, Менск. акр.

---

## Што я зрабіў новага ў сваёй гаспадарцы, прачытаўшы часопісь „Плуг“.

Пасьля сьмерці бацькі ў 1917 годзе я застаўся 15-ці гадовым гаспадаром. Ня ўмеў гаспадарыць ні па новаму, ні па стараму і затым жыў вельмі кепска. З восені яшчэ як-небудзь жывеш, бо ўвосень, як кажуць, і верабей багат, а вясною хоць зубы кладзі на паліцу. С.-г. падатак аддаваў не ўпару і кожны год плаціў пені.

У 1926 г. я выпісаў час. «Плуг» і, прачытаўшы, пачаў гаспадарыць так, як раілася ў часопісі, наколькі дазвалялі гэта абставіны. У № 4 «Плуга» я прачытаў артыкул «Карыстайцеся попелам, як угнаеньнем»; пачаў зьбіраць попел, а вясною ўгноіў ім свой гарод. Далей выпісаў і расады Беларускай белакачаннай капусты з гаспадаркі Мароза (Фатынь). Далей вычытаў аб значэньні кораньплодаў і пасеяў на маленькай дзялянцы ў 20×16 саж. буракоў кармовых, турнэпсу і бручкі. Увосень сабраў больш 100 пуд. кораньплодаў на корм скаціне зімою.

Дзякуючы «Плугу» вясною 1926 г. я засадзіў 30 кв. саж. суніцамі, якія, спадзяюся, з наступнай вясны пачнуць даваць мне добры прыбытак.

На дварэ ў мяне каля хлява раней была гразь у калена. Прачытаўшы ў «Плузе», што торф—добрае ўгнаеньне, я прывёз 8 вазоў торфу і раскідаў яго каля хлева. На лета буду мець лішніх 8-10 вазоў гною, а сёлета там сушэй хадзіць. Прывёз яшчэ 14 вазоў торфу на подсьціл жывёле. Зрабіў дацкую кармушку на 2 каровы, як апісана ў «Плузе» № 9, і ўцяпліў хлеў.

З новага году думаю зноў падпісацца на «Плуг» і буду гаспадарыць так, як раяць у часопісі аграномы і спрактыкаваныя гаспадары.

Раю ўсім сялянам выпісваць «Плуг». Сел. **П. Жаўнерчык.**

(Вёска Ізьбішча Пухавіцкага р.)

---

# Нашы пажаданьні „Плугу“

Чытаючы «Плуг», сяляне бачаць, як іншыя сяляне-перадавікі павышаюць даходнасьць сваёй гаспадаркі, бачаць з досьледаў сялян, які ўплыў на ўраджай мае мінэральнае ўгнаеньне, торф, попел і інш.

Чытку «Плуга» мы праводзім адзін раз у месяц і прачытваем яго ўвесь; калі селянін сустрэне незразумелае слова, дык ён зараз-жа пытае і, такім чынам, часопісь разьбіраецца падрабязна.

Вельмі часта здараецца і так, што сяляне пасьля чыткі часопісі пераходзяць на добрую дыскусію аб тым ці іншым пытаньні па сельскай гаспадарцы.

Некаторыя сяляне, якія больш разумеюць па-беларуску, бяруць пасьля чыткі часопісь і чытаюць па чарзе.

Наогул, часопісь «Плуг» шмат зрабіла карыснага для таго, хто яго чытаў. Ад імя сяброў чырвонага кутка, я выказваю шчырую падзяку часопісі «Плуг».

Часопісь «Плуг», якраз стала на той шлях, які вядзе захудалую гаспадарку селяніна, да больш даходнай і культурнай. «Плуг» ужо здолеў сабраць вакол сябе сялян-вопытнікаў, сумеў зацікавіць селяніна-чытача.

Я з таго часу, як стаў чытаць «Плуг», шмат чаго зрабіў у сваёй гаспадарцы, шмат ставіў досьледаў. У будучым я буду нясупынным чытачом і падпісчыкам часопісі, а таксама і супрацоўнікам. У ім пішуць нашы аграномы і беларусы-сяляне і пішуць усё з практыкі, даказваючы гэта лічбамі.

Няхай у трэці год свайго існаваньня часопісь «Плуг» яшчэ шырэй разгорне лік чытачоў і супрацаўнікоў сялян-дасьледчыкаў.

Сел.-дасьлед. **С. Сялюкін.**

(П. а. Мяжа, Вітакругі).

---

# Ліст селяніна Янкі Судака.

Шлю шчырае прывітаньне часопісі «Плуг» за тое, што за кароткі час так багата зрабіў: навучыў сотні і тысячы сялян-гаспадароў, у тым ліку і мяне, правільна і культурна будаваць і весьці сельскую гаспадарку.

Гаспадарыць я пачаў ня ўмеючы, бо радзіўся ў сям'і бедных і малазямельных сялян. Будучы малым я, хадзіў за бараною, а іншай працы мне не даручалі, а як падрос трохі, то бацька пасылаў мяне ў лес на рубку дроў і розных матар'ялаў.

Прышоўшы з Чырвонай Арміі і хоць ня ўмеючы, але пачаў гаспадарыць. Вось тут «Плуг» і прышоў мне на дапамогу. Я навучыўся правільна вясьці ўсе галіны сельскай гаспадаркі.

Цяпер я на Кармянскай раённай выстаўцы атрымаў першую прэмію і ганаровы дыплём за гародніцтва, а на І Усебеларускім конкурсе «За прыкладнае вядзеньне гаспадаркі і яе мясцовае агрыкультурнае значэньне» атрымаў дыплём ІІ-ой ступені. І тыя, хто з мяне сьмяяліся, цяпер шмат аб чым у мяне пытаюцца.

Няхай умацняецца і пашыраецца часопіс «Плуг»—правадыр да культурнай і даходнай гаспадаркі.

Няхай згіне цемра і нішчата!

Сел. **Янка Судак.**

---

# Сельска-гаспадарчыя курсы зімою.

У майстэрні, на фабрыцы ці заводзе працуюць кваліфікаваныя рабочыя, майстры і спэцыялістыя: прамысловасьць патрабуе вывучэньня складанай тэхнікі і ўмелага карыстаньня ею.

Ад прамысловасьці многа чым адрозніваецца праца ў сельскай гаспадарцы. Праўда, тэхніка тут пакуль што ня хітрая. Баранаваць ды за плугам хадзіць амаль кожны здолее. Але для працы ў сельскай гаспадарцы ёсьць свае асабістыя цяжкасьці. У сельска-гаспадарчым промысьле чалавек мае справу з жывою прыродаю. Каб выкарыстаць сілы прыроды—сабраць ураджай, мець прырост мяса, ці сала, дачакацца ад цяляці малака, патрэбны таксама веды. Напрыклад, ураджай жыта не заўсёды вырастае ў 100 пуд., а бульбы 1500 п. Ураджай залежыць шмат ад якіх прычын—багацьця глебы пажыўнымі матэрыямі, ад запаса ў глебе вады, паветра, жыцьця там некаторых мікробаў і г. д.

Толькі як вынік шмат якіх прычын, як рэзультат сумеснай працы земляроба і прыроды—зяўляецца ўраджай. У гэтым і ёсьць галоўная розьніца паміж прамысловасьцю і земляробствам.

Прамысловасьць—з адных сырых матар'ялаў вырабляе патрэбныя рэчы, а сельска-гаспадарчы промысел (земляробства) здабывае гэтыя сырыя матар'ялы, або стварае абсалютныя каштоўнасьці (ураджай вырастае).

Але спосабы палучэньня ўраджаю кожнай расьліны (збожжа, караньплодаў, травы, гародніны, сада і г. д.) маюць свае асаблівасьці і часта даволі складаныя. Таксама ёсьць шмат асаблівасьцяй у гадоўлі, выкарме і доглядзе свойскае жывёлы і г. д.

Усё гэта гаворыць, што сельска-гаспадарчы прормысел складае, або аб'ядняе ў адну сыстэму шмат і разнастайных фактараў. Усе іх асаблівасьці, добрыя і шкодныя бакі земляробу патрэбна ведаць і ў кожным разе пасвойму зьмяняць.

Вось чаму земляробу-селяніну мала быць кваліфікаваным рабочым—ведаць тэхніку свайго промысла, а трэба быць і сьвядомым прыроднікам, быць аграномам.

Адным словам, земляробу патрэбны веды, веданьне законаў прыроды, або с-г. асьвета.

Кожнаму гаспадару-селяніну скончыць с.-г. школу пакуль што нельга, але так ці інакш папаўняць ведамі свой практычны вопыт пат-

рэбна. Дзеля гэтае мэты наша дзяржава праз аграномаў організуе і праводзіць кожны год усё больш і больш с.-г. курсаў (ад 7—10 дзён і да 4 тыдняў.).

У 1923-24 г. такіх курсаў было праведзена 66 (слухачоў-сялян 3390), у 1924-25 г.—127 курсаў (слухачоў—6820).

На далейшыя гады плян НКЗ с.-г. курсы намячае разгортваць яшчэ шырэй.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Напрыклад, у 1926 г. | будзе | 140 | курсаў. |
| „ 1927 „ | „ | 200 | „ |
| „ 1928 „ | „ | 300 | „ |
| „ 1929 „ | „ | 350 | „ |
| „ 1930 „ | „ | 400 | „ |
| Усяго за 5 год | | 1390 | курсаў. |

Акрамя курсаў, пашырэньне с-г. ведаў, вядома, праводзіцца яшчэ і другім спосабам, як с.-г. літаратура і г. д. Усе гэтыя крыніцы сельска-гаспадарчых ведаў і можа выкарыстоўваць селянін у вольную мінуту зімовага часу.

Як лепш селяніну організаваць гэту справу, абмяркоўваць тут ня будзем. Скажам толькі, што с.-г. курсы, якія ўжо праводзяцца на раёнах са сьнежня і студзеня м-ца, трэба выкарыстаць шырэй.

Трэба праводзіць іх у тых вёсках, дзе курсаў яшчэ ня было, трэба адшукаць для іх больш прасторны і цёплы пакой, трэба паведаміць аб адчыненьні курсаў суседнія вёскі і г. д.

На курсах чытаюць і вядуць працу мясцовыя аграномы, таксама аграномы і спэцыялістыя АКРЗА. Вельмі добра было-б, каб чытаць на курсах запрашаліся і лепшыя працаўнікі с.-г. гурткоў (іх кіраўнікі), сяляне-дасьледчыкі і найбольш культурныя і сьвядомыя сяляне, як гэта практыкуецца ў Даніі.

У час правядзеньня с.-г. курсаў бываюць і практычныя заняткі—паказальнае кармленьне, праводзіцца пацяпленьне хлявоў, прыкладны догляд скаціны, даеньня і г. д. У мінулым годзе ў некаторых раёнах с.-г. курсы былі праведзены вельмі ўдала.

Па сканчэньні працы сяляне закладалі с.-г. гурткі, пісалі для сябе абавязковыя пастановы аб пераходзе на шматполье, пацяпленьні хлявоў пабудове кармушак, падпісваліся на с.-г. газэту ці журнал і г. д.

Усё гэта, вядома, павінны несьці за сабою с.-г. курсы і ў гэтым годзе. Каля курсаў патрэбна згуртаваць увагу сялян, с.-г. гурткоў, сялян-культурнікаў, прыцягнуць увагу мясцовай улады і грамадзкіх організацый.

С. Т.

---

# Сельска-гаспадарчая навука ў дапамогу земляробу.

Што за ўстанова Новазыбкаўская вопытная с.-г. станцыя? У бягучым 1927 г. мы будзем друкаваць артыкулы аб працы Новазыбкаўскай с.-г. вопытнай станцыі па сельскай гаспадарцы. Вось таму і трэба ведаць, што гэта за установа.

Новазыбкаўская вопытная с.-г. станцыя—навуковая установа. Яна вывучае, як найбольш лёгка і танна ўзьняць ураджайнасьць лёгкай пескавой і супескавой глебы, так званых супесей. Яна вывучае,

якія сарты збожжа і траў лепш растуць на гэтых глебах. Яна хоча вывесьці новыя сарты, якія больш падыходзяць да нашага клімату і глебы. Вывучае яна і тое, як лепш вырабляць зямлю, калі лепш сеяць збожжа і травы, як іх даглядаць у часе росту, каб павялічыць ураджай.

Вывучае яна і тое, як палепшыць пароду мясцовай сялянскай скаціны, каб ад яе мець большы даход у сялянскай гаспадарцы. Яна вышуквае найлепшы сялянскі скот, каб з яго выгадаваць новую пароду—сваю сялянскую. Для гэтага паступова адбіраецца найбольш малочны скот, паляпшаецца догляд за ім і яго кармленьне.

Такім чынам, Новазыбкаўская вопытная станцыя працуе, каб здабыць новыя спосабы павышаць ураджайнасьць зямлі і малочнасьць нашага стада.

Задача гэта вельмі вялікая. Яе ня можна споўніць за 2-3 гады. Яна патрабуе бязупыннай працы, бо жыцьцё ідзе ўперад, і ўперад і патрэбны ўсё новыя і новыя спосабы даходнага гаспадараньня. Яна патрабуе дасканалай праверкі кожнага спосабу ў залежнасьці ад пагоды кожнага году. Праверка гэта павінна рабіцца ня толькі на палёх станцыі, але і ў сялянскіх гаспадарках. І толькі тое, што вытрымае праверку і на палёх станцыі, і на сялянскім полі—будзе прызнана годным для пашырэньня сярод усяго сялянства пэўнага раёну.

Вопытная станцыя знаходзіцца на ўтрыманьні Народнага Камісарыяту Земляробства РСФСР. Частку сродкаў на яе працу даюць мясцовыя зямельныя ўстановы. Утрыманьне яе стоіць дорага—70-80 т. рублёў у год. Паўстае пытаньне: чаму-ж вопытная станцыя, шукаючы новых спосабаў павышэньня даходнасьці зямлі, сама ня можа скарыстаць гэтыя спосабы, каб акупіць сябе. Каб галоўнай мэтай станцыі было палучаць найбольшую даходнасьць і толькі, то яна-б зусім не магла займацца навуковай працай. Мы ўсе ведаем, што добрая пісьменнасьць кожнаму дае магчымасьць палепшыць сваё жыцьцё. Чым больш народ адукованы, тым лепш ён жыве. Але школы, якія даюць гэтую адукацыю, патрабуюць шмат расходаў. Тое-ж самае і вопытная станцыя. На яе палёх, у скотным хляве і лябараторыі працуе восем спрактыкаваных у навуковай працы аграномаў і каля 20-ці маладых аграномаў з навуковай практыкай да 5 год.

Усё поле станцыі падзелена на вопыты з дзялянкамі, а ўсіх такіх дзялянак тысяч пятнаццаць. Кожная з дзялянак вымагае асобнага догляду, вырабу і вучоту. Вядзецца спроба толькі аднаго аўса больш за 15 сартоў, бульбы больш 100, палявых гарохаў і пялюшак—30, сартоў жыта больш 10, пшаніцы-зімкі каля 30, ячменю каля 100 і г. д. За ўсім гэтым трэба весьці нагляд, вучот і трэба рабіць параўнаньні і вывучаць.

Ці апраўдвае вопытная станцыя свае расходы? Яна апраўдвае іх, павялічваючы даходнасьць у тых сялянскіх гаспадарках, якія праводзяць здабытыя станцыяй веды.

Так, толькі ў аднэй былой Гомельскай губэрні пасевы лубіну займаюць каля сямі тысяч дзес. Кожная дзесяціна лубіну павышае даходнасьць зямлі, як самі сяляне кажуць, на 20-30 пудоў жыта. Такім чынам, ад аднаго толькі пасеву лубіну даходнасьць сялянскіх гаспадарак павялічылася на губэрню ад 175—210 тысяч руб. у год. А з кожным годам лубіну сеюць усё больш і больш.

Тое-ж і з сэрадэляй. Яна пашыраецца яшчэ шпарчэй. Нават веснавы сухмень 1926 г., шмат дзе загубіўшы сэрадэлю, ня прыпыніў яе далейшага росту.

Тое-ж і з пашырэньнем новых сартоў. Той, хто быў на станцыі, сам пераканаўся, якая паважная і карысная праца для сялянства там праводзіцца.

І вот з вынікамі гэтай працы мы і думаем пазнаёміць шырокія колы сялянства.

З усімі тымі пытаньнямі, якія будуць незразумелы, ці не ясны, ці калі хто хоча чаго даведацца, трэба звяртацца па адрасу: г. Новозыбков, Брянской губ., сельско-хозяйственная опытная станция.

**С. Д. Сямёнаў.**

(Новазыбкаўская с.-г. вопытная станцыя).

---

# Больш увагі вывучэньню хатніх рамёств.

Калі мы прагледзім шэраг бюджэтных абсьледваньняў, якія праводзіліся Народным Камісарыятам Земляробства ў 1923-24 г. то ўбачым, што толькі адно хатняе рамяство—ткацтва займае ў бюджэце селяніна па Менскай акрузе (Самахвалаўскі раён) ад 8 да 11 проц., а па Бабруйскай акрузе (Бортнікаўскі раён) ад 8 да 16 проц. Як відаць, лік досыць значны. Акрамя ткацтва сяляне, як вядома, займаюцца яшчэ цэлым шэрагам іншых рамёств. У такім выпадку ў бюджэце селяніна хатнія рамёствы займаюць досыць паважнае месца. Аб гэтым сьведчаць і тыя выстаўкі, якія наладжваюцца амаль што кожны год да «Дню ўраджаю». На раёнай выстаўцы Асіпавіцкага р. у 1925 г. на адно ткацтва было прадстаўлена 160 экспонатаў, а ў 1926 г. Бабруйская акруговая выстаўка мела звыш 200 экспонатаў. Ніводзін музэй Беларусі ня мае нічога нават падобнага таму, што выстаўлена было на гэтых выстаўках. Рэчы надзвычайна цікавыя і вялікай мастацкай вартасьці. Але хто аб гэтым ведае? Гэта пытаньне ў прэсе не высьвятляецца—яго неяк абыходзяць моўчкі. Вось, напрыклад, калі мы возьмем № 11 часопісі «Плуг», дык там знойдзем 8 артыкулаў аб сельскагаспадарчых і саматужна-прамысловых выстаўках. Усе артыкулы, галоўным чынам, прысьвячаюцца паляводзтву і жывёлагадоўлі, а пра хатнія рамёствы, амаль што, ніхто і не заікнуўся, ня гледзячы на тое, што хатнія рамёствы на гэтых выстаўках займалі пачэснае месца. Я мысьлю, што ўсё гэта тлумачыцца цэлым шэрагам об'ектыўных умоў: на гэту галіну вясковай гаспадаркі, наогул, мала зварочвалі увагі, як у старыя часы, так і цяпер. Трэба скрануць гэту справу з мёртвага пункту. Каму, як не аграному, больш за ўсіх вядома становішча хатніх рамёств вёскі? Раённы аграном, перадавы селянін, вазьмецеся за гэту справу і час ад часу высьвятляйце яе на старонках вашай часопісі! Я ўпэўнен, што рэдакцыя часопісі «Плуг» не адмовіцца адвесьці дзьве-тры старонкі дзеля вывучэньня хатніх рамёств.

**Рыгор Рак.**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Ачыстка і сартаваньне насеньня.

Выраб глебы і угнаеньне яе яшчэ не забясьпечвае вялікага ўраджаю, калі насеньне будзе дрэнным, бузаўным. „От плохого семени не жди доброго племени“—кажа расійская прыказка і бязумоўна справядліва. Ужо даўно дасьледавана, што ад буйных і важкіх зярнят ураджай павялічваецца, і гэта таму, што ў кожным зярняці заложан запас пажывы, якой маладая расьлінка і карыстаецца да ўзросту карэньчыкаў. У буйным зярняці пажывы больш і расьліна з такога зярняці выходзіць моцнай і дае буйнае і здаровае патомства. Аб гэтым сьведчаць і прыказкі: „Што пасееш, тое і пажнеш“, або: „яблыка ад яблыні недалёка коціцца“. На справе-ж выходзіць, што нашы сяляне ў большасьці з году ў год сеюць нячыстым насеньнем і зусім не разумеюць, якую шкоду робяць самі сабе. Праўда, у апошнія гады частка сялян зразумела карысьць ачысткі насеньня і пачала яго сартаваць; аб гэтым сьведчыць колькасьць ачышчанага і адсартаванага насеньня ў БССР па гадох:

| | |
|---|---|
| у 1923-24 г. . . . . | 704.200 пуд. |
| „ 1924-25 „ . . . . | 1.400.000 „ |
| „ 1925-26 „ . . . . | 1.800.000 „ |

Нават такая вялікая лічба, як 1.800.000 пуд. ачышчанага насеньня да агульнага ліку пасяўных зярновых расьлін складае толькі 15-16 проц., а, як правіла, усякае насеньне павінна ачышчацца на ўсе 100 працантаў.

Каб добра зразумець, якую шкадлівасьць дае гаспадарцы засеў не ачышчаным зярнём, для прыкладу возьмем 1 пуд неачышчанага аўса; ён будзе мець такі склад:

5-6 фунтаў зярнят сорных расьлін
6-7 „ недасьпелых і бітых зярнят
27-28 „ добрага насеньня (буйныя, сярэднія і дробныя зярнята).

Пры засеве аднэй дзесяціны такім насеньнем у ліку 13 пудоў на долю сарнякоў выпадае каля 1 п. 25 ф., на няўсхожыя і бітыя 2 п. 10 ф. і на добрыя толькі 9 пуд. і 5 ф. Зразумела, што высевам 1. п. 25 ф. сарнякоў поле засьмечваецца і барацьба з сорнымі расьлінамі становіцца цяжкай, бо насеньне сарнякоў можа ляжаць у глебе на працягу 6-10 гадоў і ня траціць сваёй усхожасьці. У часе росту сарнякі адбі-

раюць у збожжа пажыўныя сокі, вільгаць, заценьваюць і глушаць яго, дапамагаюць пашырэньню шкоднікаў, якія кладуць свае яйкі на сорных расьлінах.

Ад сартаваньня насеньня гаспадар мае такую карысьць:

1) Зярнё аддзяляецца поўнасьцю ад насеньня сарнякоў, з якіх некаторыя можна скарыстаць для корму жывёлы.

2) Аддзяляецца недасьпеўшае і бітае зярнё, скарыстоўваецца для корму.

3) Насеньне падзяляецца на гатункі, з якіх для пасева бярэцца найлепшае.

4) Засеў ачышчаным насеньнем дае адначасовыя і здаровыя усходы, ад чаго ураджай павялічваецца на 15—20 процантаў.

5) Сартаваньне захоўвае якасьць сартавога насеньня, дапамагае барацьбе са шкоднікамі, як мошкі, вусеньні розных матылькоў і г. д.

Вось чаму патрэбна рабіць сартаваньне насеньня, а для беларускага сялянства яно мае асаблівае значэньне, бо ні ў аднэй губэрні Савецкага Саюзу так не засьмечана насеньня, як у БССР. Напрыклад, засьмечанасьць аўсу і лёну, па даным Дзярж. Хлеб. Інспэкцыі, для розных частак Саюзу меншая, чым у БССР.

| | Авёс у проц. | Лён у проц. |
|---|---|---|
| Украіна . . . . . . . . | 2,9 | 2,8 |
| Арлоўская г. . . . . . | 1,9 | 2,3 |
| Тамбоўская г. . . . . | 1,5 | 4,5 |
| БССР . . . . . . . . | 5,7 | 6,0 |

Для ачысткі насеньня ніякіх страт не патрэбна. Машыны для ачысткі і сартаваньня прадастаўляюцца насельніцтву аграпунктамі ў кожным раёне, сельска-гаспадарчымі таварыствамі, савецкімі гаспадаркамі, колектывамі і машыннымі таварыствамі там, дзе яны з'арганізаваны.

Кампанія па ачышчэньню насеньня распачынаецца з пачатку зімы (сьнежань месяц) і машыны працуюць да канца вясеньней сяўбы. Дрэнна, што наша сялянства часта пачынае сартаваць насеньне ў час вясеньняй сяўбы, вось чаму тады на пунктах і бывае завозна, прыходзіцца траціць шмат часу ў такую пару, як сяўба. Лепш будзе, калі гаспадар паклапаціца з ачысткай насеньня зімой, калі ў яго і часу больш, ды і на ачышчальным пункце свабодна. Можна не сьпяшацца і прапусьціць усё збожжа праз розныя машыны. Ачышчаць патрэбна ня толькі пшаніцу і лён, як звычайна робяць сяляне, а і такія расьліны, як ячмень, авёс, канюшына і інш. Патрэбна памятаваць, што насеньне канюшыны бывае часта засьмечана павітухай, вельмі шкоднай расьлінай для канюшыны. Ачысьціць яе ад канюшыны можна толькі на спэцыяльнай машыне—трыеру „Кускута“. Гэты трыер ёсьць толькі на аграпунктах у раёнах.

Ня трацьце часу, бярэцеся за працу па ачышчэньню насеньня.

**П. Заяц.**

# Засьмечанасьць ярыны і канюшыны асотамі.

(Sonchus arvensis L, Cirsium arvense L).

Нашы палеткі наогул вельмі засьмечаны. Ступень-жа іх засьмечанасьці і шкода ў сельскай гаспадарцы нікім яшчэ ні вывучалася і, разумеецца, нікому не вядома.

Досыць выйсьці на сялянскія засевы ці нават засевы саўхозаў, каб упэўніцца, што засьмечанасьць іх вельмі значная і што яна павінна зьвярнуць на сябе увагу. Ня гледзячы на тэта, нашы навукова-дасьледчыя установы, хоць і ставяць у сваіх програмах заданьне вывучаць засьмечанасьць палёў і спосабы барацьбы з ёю, але ажыцьцяўленьне гэтай досыць важнай задачы на справе мы пакуль ня бачым. Б. А. С. у Банцараўшчыне распачала вывучэньне засьмечанасьці, але з прычыны яе зачыненьня пытаньне да канца не даведзена.

Калі ўзяць нашу суседку Украіну, то там кожная дасьледчая станцыя вядзе працу з сьмятнякамі, іначай нават ня мысліцца праца станцыі.

З другой паловы вясны і праз усё лета 1926 г. я па даручэньню Сельска-гаспадарчай сэкцыі Інбэлкульту, працуючы ў Бел. аддз. Усесаюзнага Інстытуту прыкладнае ботанікі і новых расьлін, займаўся вывучэньнем засьмечанасьці палёў фэрмы названага аддзяленьня. І—ту і 4-х ваколічных вёсак. З гэтых вёсак—Лошыца і Карзюкі знаходзяцца на правым беразе рэчкі Сьвіслачы, на суглінках, а дзьве другія—Маляўкі і Дворышча на левым беразе, на лёгкіх пескавых ці супескавых глебах. У названых вёсках і фэрмах былі абсьледаваны папары, пасевы канюшыны, ячменю, аўса, жыта, пшаніцы і г. д.

У даным артыкуле я паказваю даныя, якія даў мэтад малых плошчаў, калі падлічвалася ўсё з плошчы 50×50 сант. На сялянскіх палосах такіх дзялянак было ўзята па дзьве, а на фэрмскіх па 5-ці, з якіх і выведзена сярэдняе на кожную паласу.

**Асоты ў канюшыне.** Канюшыны абсьледваны былі толькі на правым беразе Сьвіслачы, г. з. у фэрме Лошыца, Зацішша і в. в. Лошыца і Карзюкі (на суглінках). Усяго абсьледвана было 10-ць палос сялянскіх і 5 палеткаў саўхозкіх, прычым на ўсіх 15-ці палёх асоты распаўсюджаны вельмі значна, а ёсьць месьціны, дзе засьмечанасьць такая, што канюшына губляе ўсякае значэньне.

Найбольш моцна пабівае пасевы канюшыны асот-бадзяк (Cirsium arvense), а асот-жа малочны (Sonchus arvenis) у большасьці нізкарослы, але настолькі ім засьмечаны бываюць палеткі, што лісьця ўсходаў асота засьцілаюць усё поле.

Пры абсьледаваньні можна было заўважыць, што паасобныя расьліны асоту перарасьлі канюшыну, а ў час касьбы на палёх высокарослы малочны асот зьявіўся ўжо ў значнай колькасьці.

Асот-бадзяк расьце высокі на вільготных мясьцінах (асабліва распаўсюджан на вымачках) і іншы раз літаральна глушыць пасеўныя расьліны і разам з тым падобна малочнаму асоту распаўсюджаны па ўсяму полю.

Весавы аналіз з узятых дзялянкачак канюшыны аб іх засьмечанасьці паказаны ў табліцы.

| Назва мясцовасьці | №№ палеткаў ці палос | Канюшына: Вага ў грм. з 50×50 см. | Канюшына: % | Асоты: Вага ў грм. з 50×50 см. | Асоты: % | % іншых сьмяцін па вазе |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Фэрма . . . . В. Лошыца . . | 1 | 75,75 | 15.61 | 30,00 | 6,18 | 78,21 |
| | 2 | 39.20 | 12,10 | 20,60 | 6,38 | 81,52 |
| | 3 | 151,40 | 37,17 | 84,50 | 20,74 | 42,09 |
| Фэрма . . . В. Зацішша . . | 1 | 13,44 | 6,74 | 13,60 | 6,82 | 86,44 |
| | 2 | 77,30 | 26,22 | 44,80 | 15,20 | 58,58 |
| В. Лошыца . . | 1 | 86,75 | 18,30 | 71,25 | 15,09 | 66,61 |
| | 2 | 253,50 | 38,98 | 20,50 | 3,14 | 57,88 |
| | 3 | 177,25 | 37,31 | 6,00 | 1,26 | 61,43 |
| | 4 | 103,75 | 25,52 | 19,50 | 4,78 | 69,70 |
| | 5 | 48,00 | 13,92 | 66,50 | 19,28 | 66,80 |
| В. Корзюкі . . | 1 | 76,75 | 30,17 | 24,25 | 9,45 | 60,38 |
| | 2 | 87,25 | 20,84 | 20,50 | 4,84 | 74,46 |
| | 3 | 158,75 | 39,82 | 10,00 | 2,51 | 57,67 |
| | 4 | 93,75 | 35,61 | 25,00 | 9,57 | 54,82 |
| | 5 | 124,66 | 22,77 | 56,60 | 10,33 | 56,90 |

Як бачым з табліцы, мы з сваіх палёў замест канюшыны звозім без малага адны сьмяціны ды часта такія злосныя, як асоты. В. Лошыца ў гэтым годзе з поля з № 3 сабрала 62,83 проц. сьметнякоў, сярод якіх 20,74 проц. асоту, а канюшыны 37,17 проц.

Селянін в. Лошыцы (паласа № 1) сабраў з поля 81,70 проц. сарнін, сярод якіх 15,09 асотаў і толькі 18,30 проц. канюшыны.

Перад намі паўстае пытаньне, што-ж рабіць з такім злосным ворагам, як сарніны і асабліва асоты, з якімі найбольш трудна вясьці барацьбу. Калі прыняць пад увагу, што сарніны адбіраюць у культурнае расьліны сьвет, вільгаць, пажыўныя сокі ў далейшым усё болей і болей засьмечваюць глебу і г. д., то ясна, што першачарговай нашай задачай павінна быць барацьба з сарнінамі і асабліва асотамі.

**Асоты ў ярыне.** Ня менш распаўсюджаны асоты і ў ярыне (авёс, ячмень), але я спыняюся для прыкладу на ячмені, бо па майму досьледу ячмень і авёс засьмечаны аднолькава і таму можна абмежавацца адным ячменем. Паказваю гэта ў табліцы:

| Назва мясцовасьці | №№ | Ячмень | | | | Асоты | | | Іншыя сьмяц. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Вага | Проц. | Лік каліў | Проц. каліў | Вага | Проц. | Лік каліў | Проц. | Проц. па вазе | Проц. па ліку |
| Фэрма Лошыца | 1 | 274 | 60,11 | 95 | 68,36 | 81,40 | 17,94 | 4 | 2,61 | 21.95 | 29,03 |
| Вёска Лошыца | 1 | 296 | 58,58 | 88 | 53,98 | 91,75 | 18,15 | 3 | 1,84 | 23,27 | 44,18 |
| | 2 | 259 | 41,53 | 73 | 29,08 | 10,00 | 1.61 | 2 | 0,79 | 56,86 | 70,13 |
| | 3 | 264,5 | 72,26 | 121 | 60,82 | — | — | — | — | 27,74 | 39,18 |
| | 4 | 207,5 | 66,82 | 89 | 61,11 | — | — | — | — | 33,18 | 38,89 |
| | 5 | 205 | 28,99 | 55 | 31,12 | — | — | — | — | 71,01 | 68,88 |
| Вёска Карзюкі | 1 | 129 | 44,4 | 62,5 | 46,24 | 16,00 | 5,50 | 2 | 1,50 | 50,1 | 52,26 |
| | 2 | 199,5 | 63,43 | 188 | 69,41 | 26,00 | 8,28 | 2,5 | 0,99 | 28,29 | 59,6 |
| | 3 | 100 | 45,82 | 102,5 | 46,62 | — | — | — | — | 54,18 | 53,38 |
| | 4 | 141 | 61,03 | 80 | 55.20 | 39,00 | 16,86 | 5 | 3,38 | 22,11 | 41,42 |
| | 5 | 165 | 53,20 | 74 | 40,26 | 43,50 | 14,10 | 7 | 3,80 | 32,7 | 55.94 |
| Вёска Дворышча | 1 | 331 | 87,85 | 173 | 94,53 | 32 | 8,49 | 2 | 1,09 | 3,66 | 4,38 |
| | 2 | 207 | 70,91 | 191 | 77,76 | 42 | 14,38 | 8 | 3,15 | 17,71 | 19,09 |
| | 3 | 158,5 | 76,47 | 119 | 82,63 | 24,5 | 11,81 | 3 | 2,07 | 11,72 | 15,30 |
| | 4 | 217,5 | 65,48 | 108 | 76,05 | 16,55 | 5,63 | 2 | 1,40 | 18,89 | 22,50 |
| | 5 | 148 | 67,12 | 200 | 63,30 | — | — | — | — | 32,88 | 36,7 |
| Вёска Маляўкі | 1 | 206 | 68,75 | 94 | 62,66 | 6,50 | 2.16 | 2 | 1,33 | 29,09 | 36,01 |
| | 2 | 169 | 60,10 | 106 | 82,81 | 118,50 | 30,56 | 1 | 0,78 | 19,34 | 16,41 |
| | 3 | 182 | 56,58 | 104 | 42,68 | 57,50 | 17,83 | 1 | 0,04 | 25,59 | 57,34 |
| | 4 | 179,75 | 65,80 | 93 | 78,15 | 18,50 | 6,74 | 2 | 1,68 | 27,96 | 20,13 |
| | 5 | 215 | 52,66 | 102 | 81,44 | 152,5 | 37,34 | 8 | 4,80 | 10,00 | 13,76 |

Гэтая табліца, як і папярэдняя, паказвае на колькі сарніны шкодны ў нашай гаспадарцы наогул. Як бачым, мы часта з поля здымаем толькі 50 проц. таго, што маглі-б зьняць, каб ня было на полі сарнін, а калі яшчэ сярод гэтых сьмятнякоў мы маем іншы раз 17—18, а то і 37 проц. па вазе асотаў, дык гэта ужо для сельскае гаспадаркі зьяўляецца вельмі страшным бічом па ўраджаю.

Сучасная агранамічная думка працуе над павышэньнем ураджаю. Для гэтага дасьледчыя станцыі аддаюць шмат сілы, часу і сродкаў вывучэньню папараў, розных угнаеньняў, паасобных расьлін і г. д., але не заўсёды бачаць тое, на колькі засьмечанасьць шкодзіць нашай сельскай гаспадарцы.

Нямецкі вучоны праф. Румкер прыводзіць прыслоўе, якое кажа: «Сьметнякі ня толькі жывуць на хлебе селяніна, яны вайшоўшы ў сілу могуць зусім заставіць яго бяз хлеба». Сьметнякі, перш за ўсё, займаюць месца, якое з посьпехам магло-б быць занята пасеўнай расьлінай, што, бязумоўна, павялічыла-б ураджай. Адымаючы сьвет і цяплыню сьмяціны зьніжаюць тэмпэратуру паветра паміж расьлінамі і яшчэ зьніжаюць тэмпэратуру глебы. Гэта даказаў праф. Вольны досьледам. Паказваю яго лічбы:

| | з сьметнякамі | без сьметнякоў |
|---|---|---|
| Тэмп. для буракоў на глыбіні 10 сант. . | 20,34 | 22,05 |
| Тэмп. для кукурузы . | 18,42 | 20,80 |
| „ „ бабоў . . | 18,80 | 20,10 |
| „ „ бульбы . . | 17,70 | 20,70 |

Калі прыняць пад увагу, што шпаркасьць хімічных, бактэрыяльных і інш. зьмен глебы пры павышанай цяплыні ўзрастае і разьвіцьцё карнявой сыстэмы і самай расьліны ідзе шпарчэй, то гэтым яшчэ раз даказваецца прычына паніжэньня ўраджаю ад засьмечанасьці. Многія з сарнін яшчэ даюць прыют розным шкоднікам расьліны—казуркам, што гэтак-жа адбіваецца на ўраджаі.

Шкода ад засьмечанасьці палёў вельмі вялікая і таму варта і неабходна гэтаму пытаньню адвесьці пэўнае месца ў праграмах дасьледчых установ. Падругое, грамадзянская аграномія павінна раіць сялянам, што для павышэньня іх ураджаю неабходна барацьба з сьметнякамі праз увядзеньне пладазьменных севазваротаў, правільную апрацоўку поля і г. д.

**А. Дзямідовіч.**

---

# Павярхоўнае палепшаньне балот.

*(Па матар'ялах Забалацкай балотн. гасп.).*

Цэлы шэраг нагляданьняў над тым, у якім становішчы знаходзяцца балоты, выявіў іх дзьве асаблівасьці: з аднаго боку прыроднае багацьце і цэннасьць найбольш пашыраных на Беларусі нізінных балот, а з другога боку тое, што балоты гэтыя псуюцца дзякуючы няўмеламу карыстаньню імі.

Як вынік такога безгаспадарчага карыстаньня балотамі, мы маем шмат балот усланых куп'ем і паросшых кустамі там, дзе можна было мець добрыя сенажаці, без асаблівай затраты грошай.

Сама балотная гаспадарка займае невялічкі вучастак сярод агромністых прастораў балот (4.000 дзес.), усланых куп'ем і паросшых кустамі.

Да апошняга году вучасткі балотнай гаспадаркі ня былі асушаны і таму ня розьніліся ад іншых балот.

Ачышчаная ад хмызьняку і выраўненая ад купін дзесяціна такога балота давала 90-100 пудоў балотнага сена. Такога-ж посьпеху дасягнула суседняя з балотнай гаспадаркай вёска (Забалацьце), якая выраўняла з вясны гэтага году шырокую плошчу свайго балота і зьняла ўкос сена ў тым-жа годзе.

Такім чынам, ачыстка кустоў, зьнішчэньне купін і барацьба з безгаспадарчым выпасам скаціны пашырае кармовую плошчу, што ў нашых умовах вельмі важна, бо нам корм вельмі патрэбен. Але ўраджай у сем, восем і дзевяць дзесяткаў пудоў яшчэ малы, нездавальняючы.

Балотнай гаспадаркай быў пастаўлен вопыт, каб падняць ураджай зялёнай масы такіх балотных сенажацяй без пераворваньня, адным словам, бяз грунтоўнага палепшаньня. Для гэтага ўзялі плошчу ў 1 дзес. і разьбілі на 4 часткі, прычым ¼ была пакінута некранутай, ¼ з вясны 1925 г. была забаранована бараною Лаакэ, трэцяя частка была тады-ж забаранована і ўгноена [1]) і апошняя чвэрць была даскакала забаранована бараною Нансто, угноена і засеяна насеньнем траў [2]).

Ад пачатку вопыта (1925 г.) да моманту першага ўкосу (17/VII) паасобныя палосы характэрызуюцца так:

**I. Некранутая (кантрольная) чвэрць.** Травастой наогул рэдкі, галоўным чынам, складаецца з чырвонай мурожніцы, шчаўя з казяльцом, балотная незабудка, званец, маруна, фіялка белая, даволі частыя падушкі моху (мохадрэў).

Учот сена—ў пераводзе на дзесяціну 105 п. Другога ўкосу вучастак ня даў.

У другім годзе (1926-м) батанічны склад травастою ў першы ўкос (6/VII) мала чым розьніцца ад леташняга, дзякуючы таму, што грунтовыя воды вышэй стаялі ў гэтым годзе, чым летась—маса травастою была буйнейшай, а з-за вільгаці зьявіліся дуброўна і папараць.

Учот сухой масы на дзесяціну даў 120 п. Другога ўкосу зьняць ня прышлося.

**II. Пабаранаваная чвэрць.** Травастой па свайму складу мала чым розьніцца ад кантрольнай паласы. У травастою, апрача чырвонай мурожніцы, палявіцы, прыметны мятлюжок і мятліца, часьцей трапляецца зельле: казялец, шчаўе, незабудка, кустоўнік балотны, асабліва на садраных бараною мясцох.

Ураджай з дзесяціны—115 пуд. Другі ўкос ня зьбіраўся.

У другім годзе (1926) травастой быў больш аднастайны, мацней парасла чырвоная мурожніца, якая пакрывала іншыя травы.

Ураджай з дзес.—154 пуд. Другі ўкос таксама не сабраны.

**III. чвэрць угноеная і забаранованая.** Травастой роўны, сакавіты і густы, мае шмат лугавых траў, як чырвоная мурожніца, мятлюжок. К часу прыборкі разраслося рознае зельле, асабліва кустоўнік балотны і незабудка, якія заглушалі лугавыя травы.

Прыбраная маса дала 212 пуд. з дзес. У другі ўкос, які складаўся з маладых лугавых траў, даў 70 пуд. сена. На другі год пасьля ўгнаеньня (1926) травастой быў радзейшы. Маем галоўным чынам чырвоную мурожніцу і шчаўё з вялікай прымешкай рознага зельля, (казялец і інш.).

Ураджай у першы ўкос з дзес.—174 п., а ў другі—65 п. з дзес.

**IV. Чацьвертая-прабаранаваная,** угноеная і засеяная насеньнем. К моманту прыборкі першага ўкосу ў год вопыту (1925 г.) з пасеянага разьвялася толькі канюшына.

---

[1]) Кал. солі—12 п.+фосфорн. мукі—30 п. на дзес.

[2]) Мешаніна такога складу: канюшына чыр.—2? ф., цімафейкі—22ф., канюшыны швэдзкай—20 ф., купкоўкі і мурожніцы па 18 ф.

Галоўную масу буйнога травастою складала align рознае зельле з балотнага кустоўніка, незабудкі, шчаўя, казяльца, зязюлькінага цьвету і інш. Сухой масы на дзес. палучылі 215 п. У другі ўкос зьявіліся падсеяныя купкоўка, мурожніца, канюшына, трыпутнік лянцэтаваты, мята і інш. Сухой масы з дзес. сабралі—120 п. На другі год (1926 г.) з падсеянай мешаніны толькі некаторыя расьліны засталіся, як цімафейка, мятлюжок; канюшына мала заметна з рознага зельля. Галоўную масу травастою складае чырвоная мурожніца, а не пасеяныя травы; у верхнім ярусе таксама дрэнныя травы: шчаўё, плакун-трава, а каля зямлі казялец, мята, незабудка, лапчаткі і мышыны гарох.

Прыбраная маса дала 218 п. Другі ўкос складаецца з чырвонай мурожніцы, мятлюжка, мятліцы і з мешанінай рознага зельля даў 95 п. сена.

Калі гэтыя лічбы сабраць у адну табліцу, то будзем мець:

| НАЗВА ПАЛОС | Ураджай на 1 дзесяціну ў 1925 г. | | | Ураджай на 1 дзесяціну ў 1926 г. | | | Усяго за 2 гады |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1-шы ўкос | 2-гі ўкос | Усяго | 1-шы ўкос | 2-гі ўкос | Усяго | |
| Кантрольная . . . . . . | 105 | — | 105 | 120 | — | 120 | 225 |
| Баранаваная . . . . . . | 115 | — | 115 | 154 | — | 154 | 269 |
| Баранаваньня, угноеная . . . | 212 | 70 | 282 | 177 | 65 | 242 | 524 |
| Баранаваньня, угноеньня і падсеяная насеньнем траў. . . . | 215 | 120 | 335 | 258 | 95 | 353 | 688 |

З усяго гаворанага відаць, што на зьбітых адзічэўшых нізінных балотах з рознастайнай расьліннасьцю (чырвоная мурожніца, казялец шчаўё) можна сабраць толькі 80-100 п. сена з дзес., тымчасам, як падняць ураджайнасьць зялёнай масы зусім магчыма.




1. Кантрольная. 2. Баранаваная. 3. Баранав.+угнаеньне. 4. Баранав.+угнаеньне і падсеў траў.

Пры гэтым адно баранаваньне дае карысьці мала і каштоўнасьць яго залежыць ад ступені заімшэласьці. Баранаваньне разам з угнаеньнем асабліва карысна: яно павышае ўраджайнасьць больш чым удвайне і дае магчымасьць сабраць другі ўкос. На другі год уплыў угнаеньня трохі зьмяншаецца. Травастой па якасьці паляпшаецца. Замест markdown розная зельля пачынаюць расьці лугавыя травы.

Пасеў насеньня траў у распрацаваную і ўгноеную дзярніну дае павялічэньне травы ў тры разы, але па якасьці гэта ў першы год— разросшаеся рознае зельле, а ў другі год—лугавыя травы мясцовай дзікай флёры (чырв. мурожніца, мятлік і інш.) разам з тым-жа розным зельлем. Абодвы гады даюць па два буйных укосы, але удзел падсеянай мешаніны слабы і з гэтага боку насеньне сябе не апраўдала.

Калі цяпер ацаніць прыбаўку ўраджаю ад угнаеньня (+ 299 п. сена за 2 гады) і ўгнаеньня + падсеў траў (+ 463 п. сена за 2 гады) і прыняць пад увагу адначасовыя расходы, то адразу робіцца зразумела, на колькі карысны такія найпрасьцейшыя палепшаньні балот.

Вось таму на такое паляпшэньне трэба зьвярнуць увагу нашых практыкаў-гаспадароў, аграномаў—культурнікаў і балотных установ. Балот, падобных да Лукаўскага масыву, у нас на Беларусі ня мала.

У заключэньне трэба адзначыць, што з тэхнічнага і эканамічнага боку такое павярхоўнае палепшаньне балот павінна ўзрасьці тады, калі будзе знойдзена больш падыходзячая мешаніна (больш удалы падбор лугавых траў), і калі будзе знойдзена патрэбная норма ўгнаеньня, што між іншым складзе частку работы балотнай гаспадаркі.

**А. Шохар.**

---

# С.-г. хроніка.

**Продаж с.-г. машын, насеньня і ўгнаеньня ў 1925-26 г. Цэнтраскладам.**

Машыны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Плугі . . . . | 32.267 шт. | Жняяркі . . . . | 118 шт. |
| Бароны. . . . | 4.131 „ | Сячкарні . . . . | 5.130 „ |
| Малатарні . . | 2.900 „ | Прыводы . . . . | 955 „ |
| Арфы і сартоўкі | 1.848 „ | Сенакасілкі . . . | 30 „ |

Насеньне.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Канюшыны. . | 133.442,2 кгр. | Лубіну . . . | 311.438 кгр. |
| Сэрадэлі. . . | 77.965,9 „ | Выкі . . . . | 253.179,3 „ |
| Цімафейкі . . | 13.744,9 „ | | |

Угнаеньне.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Супэрфосфату | 431.835,6 кгр. | Калійнай солі . | 139.297,7 кгр. |
| Фосф. мукі . . | 109.248 „ | Салетры . . . | 54.472,6 „ |
| Касьцяной мукі | 493.994,7 „ | Тамасаўкі . . | 168.616,2 „ |

**Машын прададзена на 1.532.397 руб. 47 к., насеньня на 309.002 р. 87 к. і ўгнаеньня на 358.765 руб. 15 к., а ўсяго на суму 2.300.185 р. 40 к.**

---

# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Вынікі 3-х гадовай культуры сэрадэлі ў Чэрыкаўскім раёне Калінінскай акругі.

Сэрадэля зьяўляецца цэннай расьлінай, асабліва для пескавых раёнаў. Ня менш цікава яна і для раёнаў з больш-менш цяжкімі глебамі, якія надта спустошаны і на іх немагчыма сеяць канюшыну. На гэтых глебах сэрадэля будзе незамяніма. Першыя пасевы сэрадэлі ў Чэрыкаўскім р. былі заўважаны ў 1925 г., калі яе было пасеяна 67 пуд. (у раёне). Але-ж, як і ўсякую новую расьліну, сэрадэлю сяляне куплялі з асьцярожнасьцю, па 5-10 фун.

У раёне сустракаюцца розныя глебы, пачынаючы ад цяжкіх суглінкаў і канчаючы пяскамі, і пасевы сэрадэлі рабіліся на усялякіх глебах.

Мэтэоролёгічныя ўмовы 1925 г. ня спрыялі разьвіцьцю пасеваў ня толькі сэрадэлі, але і другіх расьлін.

Сэрадэля сеялася адна без прыкрываючых расьлін і пад прыкрываючыя расьліны, напрыклад, пад жыта, ячмень, авёс і пшаніцу (падсяўная сэрадэля).

Лепшыя ўраджаі былі чыстых пасеваў; што-ж датыча падсяўной, то тут сэрадэля ўдалася толькі там, дзе яна была пасеяна пасьля лубіну, які сеяўся на насеньне альбо на ўгнаеньне, напрыклад, пад жыта.

Няўдача з першымі пасевамі ў большасьці сялян зразу адбіла ахвоту сеяць сэрадэлю і ўжо ў гэтым годзе яе было пасеяна толькі 36 пуд. Сеялі тыя сяляне, у якіх яна летась зарадзіла, альбо яшчэ не спрабаваўшыя пасева і жадаючыя папытаць шчасьця.

Ураджайныя даныя сёлетняга году аналёгічны леташнім.

Папершае, сэрадэля ў чыстым высеве пасьля лубіну на насеньне дала 300-400 п. сена з дзес. і 300 п. з дзес., калі яна была падсеяна ў жыта, пад якое быў пасеян лубін. Чыстыя пасевы таксама далі добры ўраджай, калі глеба заражалася клубяньковымі бактэрыямі, праз перавозку 5-6 вазоў глебы на дзес. з таго месца, дзе летась была сэрадэля.

Падсеўная сэрадэля без заражэньня глебы клубяньковымі бактэрыям, ня гледзячы на тое, што пад прыкрываючую расьліну клаўся гной, прапала зусім за выключэньнем 2-3 выпадкаў, калі яна і без заражэньня зарадзіла добра.

1926 год па мэтэоролёгічных умовах быў горш 1925 г. Сухмень стаяў усю вясну і да канца ліпеня. З 2-х гадовай практыкі пасеву сэрадэлі мажліва зрабіць такія вынікі:

1. Без заражэньня глебы клубяньковымі бактэрыямі сэрадэля лепш удаецца ў чыстым высеве.
2. Аднолькава родзіць, як на пескавых, так і на цяжкіх глебах.

3. Каб атрымаць добры ўраджай, трэба сэрадэлю сеяць пасьля лубіну, альбо глебу заражаць клубяньковымі бактэрыямі.

4. Сэрадэля дае ўраджай сена 300-400 пуд. з дзес. на даволі пустым полі.

Агр. **Карачэўскі.**

Чэрыкаў, Калінінскай акр.

---

# Кармовая бручка.

Сёлета я садзіў бручку па турнэпсу, бо турнэпс рэдка ўзышоў і зусім загінуў; на полі аказаліся плямы. Зямлю-ж хацелася скарыстаць і дзеля гэтага толькі і падышла бручка, бо ўжо час сяўбы прайшоў, а бручка ў большасьці выпадкаў разводзіцца расадай, яе можна садзіць да 25 ліпеня і нават пазьней.

Ураджай бручкі па турнэпсу падлічыць ня мог, а падлічваў яе, як турнэпс. Магу сказаць, што ўраджай быў ня дрэнны, як відаць з паасобных расьлін, якія вырасьлі ад 3-х да 15 фун. штука. Апрача гэтага, я бручку садзіў і сеяў паасобна: па сьвежаму поўнаму ўгнаеньню і па палавіннаму асеньняму угнаеньню з дабаўленьнем другой палавіны ўгнаеньня вясной. Вынікі відаць з табліцы.

| №№ вучасткаў | Сеяны ці саджаны вучастак | Ураджай на дзес. па палавіннаму асеньняму і (1200 п.) і палав. сьвежаму (1200 п.) гною | Ураджаі па сьвежаму ўгнаеньню |
|---|---|---|---|
| 1 | Саджаны . . . | 3980 п. | 3500 п. |
| 2 | Сеяны. . . . | 2340 „ | 2120 „ |
| 3 | Разьніца саджанага супроць сеянага . | 1640 „ | 1380 „ |
| 4 | Сярэдні ўраджай з 2-х вучасткаў . . | 3160 „ | 2810 „ |

Паасобныя расьліны на саджаных вучастках былі вагою ад 5 да 22-х фун. штука, а на сеяных ад 1 да 12-ці фун. Адсюль відаць, як лепей сеяць.

Трэба яшчэ адзначыць, што на абодвых вучастках была значная колькасьць расьлін растрэснутых на дзьве, або на тры часткі. Яны хоць і ня гніюць, але што болей растуць, то болей трэскаюцца, а па сьвежаму ўгнаеньню гэтага ня было.

Да гэтага году я на гэта не зьвяртаў увагі, а сёлета прышлося падумаць, ад чаго гэта зьяўляецца. Лічу, што ў асеньнім угнаеньні болей ёсьць спажыўнога матар'ялу (ужо гатовага для ўжытку расьлінам) і расьліны маюць магчымасьць у большай колькасьці іх атрымоўваць, а таму і хутчэй растуць і трэскаюцца. У гэтым я хоць і ня ўпэўнены, бо зьвярнуў увагу толькі сёлета, але гэту маю думку крыху як-бы пацьвярджае вось што. Я заўважыў, што на асеньнім угнаеньні

бручка адразу ідзе ў рост і ў верасьні канчаткова спыняе рост, а па сьвежаму ўгнаеньню спачатку расьце ня хутка, а потым хутчэй і хутчэй да самых замаразкаў, расьце нават і пасьля невялікіх замаразкаў, калі зноў стане цёплае надвор'е. Сорт я сёлета высяваў «Гофманскую жоўтую і белую». Па спажыўнасьці бручка раўняецца турнэпсу, а зімой захоўваецца лепей. Зьбіраць яе ўвосень вельмі добра, бо расьце яна амаль зусім на паверхні зямлі. Разводзіць бручку, гэта значыць вясьці барацьбу за «рэжым эканоміі», бо яе прыходзіцца садзіць тады, калі гаспадар ужо скончыў палявую працу. Сел. **Янка Судак.**

# Вынікі мінэральнага ўгнаеньня.

У шмат якіх гаспадароў нашага раёну не хапае для жывёлы корму, але-ж сяляне ня цікавяцца пасевам кармовых буракоў і бульбы, думаючы, што яны кепска родзяць.

Сёлета ў Руднянскім сельсавеце былі закладзены паказальныя вучасткі з ячменем, турнэпсам і бульбай, па мінэральным угнаеньні.

Вучасткі з ячменем былі закладзены ў мяне.

Цяпер я хачу падзяліцца з чытачамі «Плуга» аб тым, ці карысна сеяць у гаспадарцы кораньплоды і бульбу. Перш я скажу аб турнэпсе.

Глеба пад вучасткамі была лёгкі суглінак з глiністай падглебай. Ухіл дзялянак на ўсход. Вораны слой—4-5 вяршкоў. Першая воранка рабілася параконным плугам «Фенікс». Гной клаўся ў пачатку траўня, а мінэральныя парашкі ў другой палове мая.

Пасеў рабіўся ручным спосабам, а летам турнэпс тры разы палолі і асыпалі сахой. Калі быў падлічан ураджай, дык атрымаліся вось якія вынікі: кантрольная дзялянка, дзе ня было ні гною, ні мінэральных парашкоў дала ў пераводзе на дзесяціну 1902 пуды турнэпсу.

Другая дзялянка, на якую быў вывезен гной у ліку 2400 пуд. на дзес., падсеяна супэрфосфату ў ліку 11 пуд. на дзес. і калійнай солі ў ліку 7 пуд., дала ураджай на дзесяціну 3083 пуд.

Такім, чынам, параўнаўшы, ўраджай гэтых дзялянак з гноем і мінэральнымі ўгнаеньнямі, мы бачым, што ўраджай з другой дзялянкі, у пераводзе на дзес., большы на 683 пуды.

Цяпер падлічым, наколькі селяніну выгадна сеяць турнэпс, а таксама ўгнойваць мінэральнымі парашкамі.

Каб купіць 11 п. супэрфосфату, трэба аддаць 17 р. 5 к., на куплю 7 п. калійнай солі—16 р. 10 к. і на сто вазоў гною, лічачы воз па 50 кап., страцім 50 руб., а ўсяго 83 р. 15 к.

Карысьць ад ураджаю. Лішак турнэпсу 682 п., калі лічыць па 25 кап., дадуць прыбытку 170 р. 75 к. Калі цяпер адняць ад 170 р. 75 к. затраты на ўгнаеньне ў суме 83 р. 15 к., то застанецца чыстага прыбытку 87 р. 60 к.

Паглядзім на ўраджай бульбы. Глеба была аднолькавая, як і ў першым выпадку. Першая воранка рабілася аднаконным плугам, асыпалася бульба тры разы за лета. Пры вучоце ўраджаю выявілася вось што: кантрольная дзялянка ў пераводзе на дзесяціну дала 1075 п. бульбы.

Другая дзялянка, на якую было паложана на дзесяціну 2400 пуд. гною, 22 пуд. супэрфосфату і 13 пуд. калійнай солі, дала ўраджай на дзесяціну 1773 пуд.

Як і ў першым выпадку, падлічыўшы кошт угнаеньняў, будзем мець расход 114 руб., а даход з 698 пуд. лішняй бульбы, лічачы пуд па 30 кап., будзе 209 р. 40 к. Чысты прыбытак 95 р. 40 к.

Сел. **С. Сялюкін.**




## Калі пладаводзтва стане прыбытковым.

№ 39 нямецкай часопісі «Практычны парадн к у пладаводзтве і гародніцтве» за 1926 г. прысьвечан прыбытковаму гандлёваму пладаводзтву. Лепшыя навуковыя сілы Нямеччыны выказалі ў гэтым нумары думкі аб тым, як ратаваць карысныя культуры, зрабіць іх прыбытковымі і незалежнымі ад замежнага гандлю.

Вядомы вучоны садавод Нямеччыны Пёніке зьвяртае увагу на значэньне належнага колеру ў гандлёвых сартоў яблык. Належны колер пладоў выклікае большы апэтыт і смак спажыўца, але, нажаль, гэта апошняе рэдка прымаецца пад ўвагу культываватарам-садаводам. Асортымэнт адбіраецца, нажаль, па асабістаму густу садавода, мала зьвяртаецца ўвагі на сталасьць, трываласьць драўніны, гандлёвую вартасьць пладоў. Пладаводы больш хапаюцца за сарты, якія даюць буйныя плады і хістаючыяся ўраджаі, але мала зьвяртаюць увагі на сарты, якія прыносяць роўнамерныя і рэгулярныя ўраджаі. Трэба цаніць унутраную каштоўнасьць пладоў, але сарты вельмі каштоўныя па сваей якасьці пазнаюцца нямногімі знаўцамі. Сапраўдных знаўцаў пладоў вельмі мала ў гандлю. Плады прыгожага колеру, добрай якасьці, у добрай упакоўцы, у аднолькавых скрынках хутка прадаюцца на вялікіх (унутраных і замежных) рынках. Рознастайнага асортымэнту тут не павінна быць. Шмат лягчэй прадаць 1000 скрынак аднаго гатунку яблык, як 500 скрынак двох-трох сартоў. Рухавыя гандляры-амэрыканцы вельмі добра ўцямілі запатрабаваньні сусьветнага рынку і прыстасавалі культуру яблык да належных умоў. Амэрыка (паўночная), Канада, Аўстралія пачалі з разводу нашых эўропэйскіх сартоў, але там далі гэтай культуры нешта новае і толькі добра азнаёміўшыся з патрабаваньнем сусьветнага рынку, пачалі ўводзіць у культуры новыя сарты, якія больш за ўсё адпавядаюць патрабаваньням спажыўца.

Нямеччына—гэта старая краіна культурнага пладаводзтва—ня здолела ўцяміць рашучыя запатрабаваньні рынку. Мы, піша Пёніке,—больш давяралі языку, як воку; больш пашыралі шляхетныя, але няпрывабныя (з выгляду) сарты і ня ўцямілі, у чым гаспадарчае патрабаваньне пладовага рынку. Жыцьцёвае пытаньне пладаводзтва Нямеччыны—пазнаць правільныя шляхі пабудовы гэтай галіны сельскае гаспадаркі (піша Пёніке). Трэба дасканала вывучаць, што рынак патрабуе, што лёгка, пэўна і хутка можна прадаць у значнай колькасьці. Далей у гэтым артыкуле прыводзяцца 8 сартоў яблык, якія зьяўляюцца асноўнымі тыпамі па каштоўнасьці і прывабнасьці колераў. Гэтыя сарты сустракаюцца ў

Нямеччыне і паводле думак аўтара трэба імкнуцца, каб працаваць у напрамку падбора падобнага асортымэнту, як Бальдвін, чырвонае шляхетнае, данцыгскае рабрыстае, Ньютон Пепінг, Баскопская прыгожая і г. д.

Па тэхнічных умовах немагчыма на старонках «Плуга» даць малюнак у натуральных колерах хаця-бы аднаго замежнага сорту. Заўважым, што сорт Бальдвін мае пераважна агністы колер, не дае плям, чаму амэрыканцы прадаюць гэты сорт з посьпехам у Эўропе (і нават у Нямеччыне), ён мае перавагу перад больш шляхетнымі сартамі. Чырвонае шляхетнае зьяўляецца гандлёвым тыпам жоўтага яблыка з пекнымі чырвонымі бакамі (па аснаўным жоўтым колеру сьмяючаяся чырвонасьць у пекнай размытай пламяністай водценьні). Паміж памянёных сартоў сустракаюцца цёмна-бурдовыя сарты і вельмі каштоўны на сусьветным рынку Ньютон Пепінг з жоўта-залацістай водценьню.

Наша мэта закрануць пытаньне ў гэтым артыкуле аб тым, якія асаблівасьці павінны мець плады вышэйшай гандлёвай вартасьці. Паміж іншым колер пладоў павінен мець вялікае значэньне ў гандлю.

Беларускае пладаводзтва мае шырокія шляхі для разьвіцьця. Адзначым, што ў варунках Случчыны, Мазыршчыны мы маем грунт для масавай культуры гэтакіх каштоўных у гандлю сартоў, як Бойкэн, Штэцін чырвоны (добрых па смаку, лёжнасьці колеру). Мы добра ведаем, якую эканамічную вартасьць мае яшчэ да апошняй пары антонаўка з Магілеўшчыны і Гомельшчыны. Мы цэнім пэпінку літоўскую за яе ўраджайнасьць і пекныя плады, культура якой павінна пашырацца там, дзе ёсьць належныя умовы (ў Гомельшчыне і Случчыне).

Мы павінны рыхтавацца да стандартызацыі нашага асортымэнту па раёнах і выступіць з належнымі ведамі аб патрабаваньні саюзнага і замежнага пладовага рынку.

**М. Бурнштэйн.**

---

# Зьнішчайце „зімовыя гнёзды“.

**Здымайце зімою на садовых дрэвах сухія, пакручаныя лісьця, там знаходзяцца гнёзды вусеняў баярашніцы і шоўкапрада. Вясною яны будуць нішчыць сад.** Зімовы пэрыод трэба скарыстаць дзеля зьнішчэньня шэрагу шкоднікаў у нашых садох. Трэба ў час і разумна ўжываць тыя альбо іншыя спосабы супроць розных шкоднікаў. У беларускіх садох за апошні час у вялікай колькасьці распаўсюджаны розныя шкоднікі, барацьба з якімі павінна быць самая энэргічная. Садавод павінен ведаць, што ёсьць шкоднікі, з якімі змагацца з вялікім посьпехам можна ў зімовы пэрыяд, да пачатку вясны.

Што такое «зімовыя гнёзды»? Пасьля лістапада, калі лісьце зьляціць з дрэў, на канцох гальля застаюцца скруткі з некалькіх лісткоў, альбо адзіночныя лісты; як тыя, так і другія моцна прычэплены да гальля дрэў пры дапамозе павучыных нітак. Гэтыя скруткі застаюцца да вясны і ніякі вецер ня можа іх сарваць. Унутры адзіночных лісьцяў знаходзіцца ад 10 і болей вусеняў (чарвячкоў), у скрутку з лісьцяў знаходзіцца некалькі сот вусеняў. Чаму гэтае скручанае лісьце мае назву «зімовыя гнёзды»? Вясною вусені выходзяць з гнёздаў і накідваюцца на пучкі, а затым, калі зьявіцца маладое лісьце, пачынаюць і яго есьці. Вусені шпарка растуць, затым закручваюцца ў мяшэчкі (кукончыкі), з якіх выходзяць матылькі.

З вусеняй, якія жылі ў вялікіх скрутках лісьцяў, выходзіць баярышніца (белы матылёк з чорнымі пасачкамі на крыльлях).

З вусеней, якія жылі ў вялікіх скрутках лісьця, выходзіць матылёк-залатагузка—таксама белы матыль, але меншага разьмеру, чым баярышніца і бяз чорных пасачкаў на крыльлях (канец брушка гэтага матыля мае залатыя валаскі).

Самы пэўны, танны і лёгкі спосаб зьнішчэньня гэтых шкоднікаў—збор іх зімовых гнёздаў. Гэтыя гнёзды трэба зьбіраць з восені да вясны. Гнёзды можна зьбіраць рукамі, калі яны нізка падчэплены да гальля, а з высокага гальля пры дапамозе доўгай палкі з рашчэлам на канцы. Дзеля гэтай мэты таксама карыстаюцца спэцыяльнымі садовымі ножнамі (сякамарамі) на доўгіх палках.

Сабраныя гнёзды трэба скласьці ў кучу і абавязкова спаліць іх. Адначасна з зборам зімовых гнёздаў трэба зьнімаць з дрэў і гнілыя плады, якія пашкоджаны грыбною хваробаю—пладоваю гнільлю. Гэтыя гнілыя плады—зараза будучага ўраджаю. Іх трэба таксама спаліць.

Гэту работу трэба спаўняць цяпер, пакуль ёсьць дзеля гэтага час, яе могуць зрабіць і малыя дзеці.

Ніколі ня трэба барацьбу са шкоднікамі астаўляць на апошні час. Збор зімовых гнёздаў—праца ня цяжкая, а калі гаспадар свайго саду сваечасова збору ня зробіць, то яму патрэбна будзе з баярышніцай і залатагузкай змагацца апырскаваньнем. А гэта патрабуе грошы і шмат клопату з здабываньнем апырсківаценя і атрутаў.

Таму, зрабі зімою тое, што вясною рабіць будзе ўжо позна.

**Б. Бранцаў.**

---

# Самасадачны вулей А. Сыцько.

Паляпшаць сыстэму пчалярства пачалі ў «Лучках» з 1917 г. Да гэтай пары А. Сыцько меў да 30 калод. Штурхачом да палепшаньня пчалярства зьвілася пражываньне ў гаспадарцы палоннага пазнанца з Нямеччыны, які для пачатку змайстраваў вулей Лявіцкага. У сучасны момант у «Лучках» ёсьць вульлі сыстэмы Дадан Блатта, Лявіцкага, палепшаныя калодныя і звычайныя калодныя.

Палепшаныя калодныя вульлі маюць знадворку выгляд звычайных калод, а ў сярэдзіне змайстраваны гэтак: унізу маем аснову гнязда на лінейках. Па-над лінейкамі знаходзіцца мядовы магазын, у якім у пару галоўнага ўзятку трэба пакінуць рамкі.

Цікавы вулей для самасадак пчол у лясох. Гэты вулей з надворку нібы падобны да старага калоднага, але зьверху надпілоўваўся на 2 вярш. упоперак. Ніжэй месца сьпілу выдзеўбана 4-х кутнае дупло на 9 вярш. удоўж і 6 вярш. шырыні. Сьцены ў кутках павінны мець таўшчыню ня менш 1½ вярш. (для цяплыні). У дупле ўстаўляюцца рамкі на 5½ вярш. шырыні і на 8 вярш. даўжыні, прычым наклейваецца вашчына і дупло запаўняецца рамкамі—ня менш 6 і ня больш 9 (пчолы любяць ня менш 6 рамак).

Самасадачны вулей ставіцца на дрэва ў лесе на 5-9 арш. ад зямлі ў сярэдзіне траўня (для Капаткевіцкага раёну). Калі гай з высокімі дрэвамі, дык вулей паднімаюць вышэй, да 10 аршын, у хмызьняку самасадак трэба паставіць ніжэй 5 арш.

Для пастаноўкі вульля на дрэва абіраецца мутоўка сукоў і прыбіваюцца цьвікамі перакладні чатырох альбо трох кантовыя, потым засьцілаюць дошкамі з такім рахункам, каб магчыма было наглядаць за вульлём і хадзіць за ім навокал дрэва. На гэткую ступеньку звычайна зьмяшчаюць 2, часам 3 вульлі і прывязваюць да дрэва лазінаю альбо прыбіваюць цьвікамі.

Садку раёў магчыма наглядаць у Капаткевіцкім раёне ад 15 траўня да 15 жніўня. Каля 15/V, калі пачынаецца раеньне пчол, трэба самасадачны вулей троху папырскаць вядомым рашчынам, гэтак званай васковінай, альбо васкадаваю. Васкадаву прыгатаўляюць такім спосабам: адбіраецца чысты, без чарвы, ад здаровых пчол (бяз плесьні і ня вельмі стары) воск; гатуецца ў вадзе, потым аджымаецца прэсам.

Атрымліваюць сок цёмна-чырвонага колеру, у які кладуць на 2 фун. соку 1 фун. добрага (лепш ад маладых і здаровых пчол) мёду. Мешаніна гэта гатуецца да поўнага кіпеньня, пасьля чаго зьліваецца ў шкляную (лепей у дубовую) пасудзіну і ставіцца ў жылым памяшканьні. Праз тыдзень, альбо два, у залежнасьці ад тэмпэратуры памяшканьня, атрыманы састаў пачынае брадзіць і дае пену. Гэта цягнецца 4 дні (пры цяплыні памяшканьня), калі на паверхні зьяўляецца плеўка (нібы грыбок), якую неабходна зьняць. Праз 2-3 тыдні ( у залежнасьці ад тэмпэратуры) салодкасьць мёду зьнікае і атрыманы адвар разводзіцца, калі патрэбна, чыстым мёдам. На 1 бутэльку бяруць прыблізна ад ½ ф. да 1 ф. мёду (у залежнасьці ад кваснасьці) і васкадава прыгодна для ўжываньня.

Апырскваньне васкадавай пачынаецца ад пачатку раеньня пчол. Праз кожны тыдзень альбо два, паўтараюць апырскваньне (дробнай расой, нібы туманам). Заўважым, што на пяту вульля трэба палажыць пахучых вальховых галінак, якія таксама надушыць васкадавай. Калі вулей зроблен з лёгкага дрэва (з сасны), тады магчыма зачыніць даўжэю больш шчыльна, а калі з дуба (які не прапускае паветра), тады даўжэю трэба зачыняць лёгка. Самасадка пчол наглядаецца паміж 10 гадзін раніцы і 4 г. спаўдня.

Калі пчолы завядуцца ў вульлі, то па сканчаньні ўзятку, у верасьні падрыхтоўваць скрынку такіх-жа разьмераў, як і дупло. З самасадачнага вульля здымаецца 2-х вяршковая паверхня. Падкурыўшы дымам у лятку пчол, памалу здымаюць першую бакавую рамку ўверх і разам з пчоламі ставяць яе ў скрынку. Гэтак паступова ставяць рамку за рамкай.

**М. Бурштэйн.**

# Як палепшыць вулей—калоду.

Перш усяго ў калодзе трэба пераставіць ляткі. Звычайна ляткі прыладжваюцца сьпераду затворак вульля. Гэта вельмі нязручна: адчыняючы вулей, мы перешкаджаем працы пчол і непакоім іх. Лепш прыладжваць ляткі на другім ад затвораў баку.

Каб не затыкаць ляткоў, калі гэта патрэбна, лепш зрабіць у ляткох драўляныя засаўкі. Такі лятoк будзе лёгка і проста зачыніць.

Далей вельмі зручна прыладзіць у галаве калоды, так званы, шпунт. Дзеля гэтага прабіваецца ў галаве стаячых калод 3×4 вяр. чатырохкутная дзірка, якая і затыкаецца добра прыгнаным бруском.

З калодамі, дзе ёсьць такі шпунт, зручна працаваць. Напрыклад, трэба злавіць матку. Для гэтага вымаюць шпунт і над дзіркай ставяць

[1]) Рэд. дае месца артыкулу таму, што зараз на БССР выбіраецца прыкладны мадэль рамовага вульля.

скрынку ўверх дном або раёўню. Потым, адчыніўшы вулей, падкурвайце пчол і яны пяройдуць разам з маткай праз дзірку (шпунт) у скрынку ці раёўню і тут саўюцца ў клубок. Таксама, калі вам трэба падкарміць пчол, дык вынуўшы чапік, можна палажыць на дзірку анучку, паліць на яе мёду і прыкрыць чым небудзь зьверху. Пчолы праз анучку будуць смактаць мёд і насіць яго ў гняздо. Так можна падкармліваць пчол і ў халодную пару.

Летам з добрым узяткам мёду, калі ўсё гняздо бывае занята пчоламі, над дзіркай такога вульля ставяць скрынку вяршкі 3 або 4 вы-







Палепшаная калода селяніна А. Магучага.

шынёю. На двух супроцьляжачых бакох гэтай скрынкі зьверху выбіраюцца фальцы і на іх навешваюцца рамкі. Такія скрынкі завуцца надстаўкамі або магазынамі. Пчолы пераходзяць у магазын праз дзірку ў галаве шпунта, будуюць у рамках соты і заліваюць іх мёдам.

Скрынка зьверху зачыняецца дошкай. Паміж верхняй лінейкай і дошкай патрэбен прамежак дзеля таго, каб пчолы ня прыклеілі да дошкі ўсе рамкі скрынкі. Рамкі ў скрынку ўстаўляюцца з прыклеенымі кавалкамі вашчыны, якая прымацоўваецца растопленым воскам да ніжняга боку верхняй лінейкі рамкі. Інакш пчолы будуць няправільна будаваць соты ў рамках.

Такія надстаўкі пчолы даволі хутка запаўняюць; матка ў іх рэдка заходзіць, вашчыны з мёдам бываюць белыя і прыгожыя на выгляд. У год

з добрым узяткам мёду, пчолы могуць запоўніць дзьве і нават тры такія надстаўкі. У канцы ўзятка ўсе надстаўкі здымаюцца.

Калі ў вульлі няма дзіркі-шпунта ў галаве, таксама можна карыстацца магазынамі, але не надстаўнымі, а прыстаўнымі. Такія магазыны ставяцца бокам да вульля да вынутай верхняй утулкі і моцна прывязваюцца да яго вяроўкай і нават падпіраюцца, бо запоўнены мёдам магазын можа адваліцца. Старана, якая ляжыць супроць прыстаўленага да вульля магазына, мае ад'ёмны бок з прарэзаным у ім лятком. Пад стольлю такой скрынкі на адлегласьці $^3/_8$ цалі ад верху вырэзваюцца пазы, у якія ўваходзяць плечыкі рамак. Рамкі ў такую скрынку ўсоўваюцца адна за другой з таго боку, дзе ёсьць ад'ёмны бок. Яны маюць ужо не такі выгляд, як рамкі ў надстаўках. Рамкі надстаўкі нізкія і шырокія, а гэтыя вузкія і высокія. У верхнюю лінейку такіх рамак трэба ўбіваць па пары цьвікоў; адзін з аднаго боку верхняй лінейкі, а другі з другога і так, каб яны выходзілі з лінейкі рамкі на $^1/_2$ цалі. Гэта патрэбна дзеля таго, каб рамкі правільна віселі ў скрынцы і на аднолькавай адлегласьці адна да другой, на ½ цалі. На рамкі таксама абавязкова трэба прыклейваць вашчыну.

Разьмер прыставак павінен супадаць з разьмерам дзіркі ўтулкі вульля. Такія прыстаўныя магазыны можна прыстаўляць да ляжачых калод, у якіх надстаўкі паставіць нельга, але рамкі ўжо ў такім выпадку бываюць нізкія і шырокія. Калі пчолы запаўняюць прыстаўку, то рамкі з мёдам можна вынуць, а на іх месца навешаць другія.

Прымяняючы розныя магазыны да калодных вульлёў можна мець больш мёду, бо пчолы ў іх з ахвотаю працуюць, асабліва ў надстаўках.

Вельмі добра ў калодах рабіць такую галову, якая-б перасоўвалася зьверху ўніз. Гэта робіцца так: з вяршковай дошкі вырэзваецца круг, які ўстаўляецца ў сярэдзіну вульля; тут ён прымацоўваецца пад самым верхам калоды клінамі, для якіх павінны быць там дзіркі. Такую галаву можна рабіць і ў стаячых і ў ляжачых калодах, пры чым з такой калодай працаваць зручней і яна замяняе сабой магазын.

Здаецца дзіўным, як можа такая галава замяніць магазын. А вось як: калі пчолы запоўняць увесь вулей, то ў канцы ўзятку сьмела рэжце з галавы мёд, а на адрэзаныя канцы апускайце галаву. Пчолы добра перазімуюць, ня гледзячы на тое, што ў іх узялі ½ пуд. мёду. На наступны год, калі пчолы ўзмацняцца, у час узятку падымеце галаву на старае месца. Пчолы хутка сюды пяройдуць, забудуюць яе і зальлюць мёдам. Толькі трэба ў канцы ўзятку забраць мёд і апусьціць галаву на адрэзаныя канцы сотаў.

На зіму ў такім вульлі трэба зьверху галавы ў пустое месца палажыць падушку з мякіны, а калі будуць шчыліны, то іх замазаць глінай. Карыстаючыся такой галавой, вашчына зьверху вульля заўсёды будзе сьвежай, бо яна кожны год вырэзваецца пры адборы мёду. Адбіраць мёд з галавы схадней, чым з пяты вульля: мёд бывае лепшы. У такім мёдзе рэдка бывае чарва. Да таго-ж і пустая вашчына, а яна вельмі патрэбна пчолам.

Калі ў такім вульлі трэба злавіць матку, то галава аддзяляецца ад канцоў вашчыны і замацоўваецца над верхам калоды. Верхняя ўтулка зачыняецца, а праз ніжнюю падкурваюць пчол. Яны загудуць і саўюцца ў клубок у пустым месцы галавы калоды. Адсюль іх трэба сабраць у раёўню і шукаць паміж іх матку. Яна звычайна пераходзіць разам з пчоламі ў клубок.

Селянін **А. Магучы.**

---

# Жывёлагадоўля



## Якое значэньне мае цёплы хлеў.

Добры будынак патрэбен, як для жыцьця чалавеку, так і жывёлы. Адным з балючых пытаньняў сялянскага жывёлаводзтва зьяўляецца пытаньне аб зімовых памяшканьнях для жывёлы.

Надыйшлі ўжо зімовыя месяцы, казаць аб правілах пабудовы новых будынкаў позна, але затое неабходна кожнаму селяніну паклапаціцца аб уцяпленьні памяшканьняў для скаціны.

Сялянскія хлявы знаходзяцца ў кепскім стане. Сьцены робяцца тонкія, са шчылінамі, без вакон; падлогі у хляве няма, заместа яе ў хляве бачым гразь з гноем. Столь робіцца часовай накідкай на жэрдкі аржанай саломы, а часта і зусім ня робіцца. Адным словам, хлеў для жывёлы ў сучасным стане дарэмна адбірае сродкі ў гаспадара і здароўя жывёлы. Жывёла хварэе ад гразі і цемры, мерзьне зімою, патрабуе многа корму на сваё саграваньне і прыносіць убытак гаспадарцы.

Мне хочацца прывесьці прыклад таго, якое значэньне мае цёплае памяшканьне для жывёлы. У Слуцкай акрузе, у вёсцы Даросіна ўаднэй сялянскай гаспадарцы дзьве каровы былі пастаўлены ў цёплым хляве, а дзьве другія ў халодным. Гаспадар заўважыў сам, як каровы, якія стаялі ў халодным хляве, пачалі зьмяншаць удой ў параўнаньні з удоем тых кароў, якія стаялі ў цёплым хляве. Тады ён узяў і перамяніў іх месцамі. Не прашло 2-3 тыдняў, як каровы з халоднага хлява сталі прыбаўляць удой на 3-5 фунтаў малака.

Вось такое параўнаньне і паказвае гаспадару, наколькі ад цёплага хлява карова павялічыць удой малака.

Усё гэта бывае з тэй прычыны, што ў халодным памяшканьні цела жывёлы траціць больш цяпла, чымся ў цёплым. Нам вядома, што цяплыню цела жывёла набірае з корму, якім яна жывіцца. І таму, чым халадней хлеў, тым больш корму неабходна для жывёлы.

Навукай і практыкай даведзена, што для малочнай скаціны лепш будзе 10-12 градусаў цяплыні. Каб цяплыня ў хлеве была на аднэй ступені, неабходна ўвосень, калі жывёла ставіцца на зімовы корм, усе шчыліны ў сьценах пазатыкаць пакульлем, але не затыкаць саломай, бо салома і гліна вывальваюцца і прапускаюць холад. Столь трэба замазаць глінай і зьверху насыпаць сухога пяску ці кастрыцы ў 1-2 вяршкі. Дзьверы неабходна абшыць саламянымі матамі. Усё гэта патрабуе невялікіх выдаткаў, але затое жывёла будзе спажываць штодзённа на 3-4 фун. менш корму, удой будзе значна вышэй і гной лепш перапрэе.

Агран. **С. Багдашыч.**

---

# Ці можна жывёле даваць прамёрзлы корм.

Даволі часта бывае, што корм прамярзае і ў далейшым псуецца. Загэтым часам бывае рызыкоўна скармліваць такі корм жывёле. Часьцей усяго прамярзаюць караныплоды, якіх не пасьпяваюць прыбраць з поля і яны ў замаразкі застаюцца ў глебе.

Пры ўсякім прамярзаньні вада і сок караныплодаў пераходзяць у лёд. Адначасова з гэтым бываюць і другія зьмены. Але самыя важныя зьмены ў караныплодах ад прамярзаньня наступаюць у час адтайваньня.

Прамёрзлая бульба звычайна набывае салодкі смак, а гэта тлумачыцца тым, што крухмал бульбы часам да 20 проц. пераходзіць у цукар. Такія-ж зьмены бываюць і ў бураках, дзе адна форма цукру (трасьніковая) пераходзіць у другую (вінаградную), а ў капусьце крухмал ператвараецца ў вінаградны цукар.

У большасьці выпадкаў прамярзаньне прыводзіць да згубы і псаваньня расьлін. Лісьце іх хутка высыхае, робіцца бледна-зялёным ці цёмна-шэрым, бульба і морква робяцца нагэтулькі мяккімі, што пры слабым націсканьні яны вылучаюць з сябе сок; у далейшым, калі яны перахоўваліся сырымі, лёгка псуюцца і пачынаюць гнісьці.

Што датычыць пытаньня, як адбіваецца прамярзаньне на спажыўнасьці корму, то тут дасьледваньне паказала, што прамярзаньне не зьмяншае спажыўнай вартасьці корму. Зьмяншэньне спажыўнай вартасьці корму можа быць толькі ў тым выпадку, калі прамёрзлы корм пры адтайваньні пачынае загніваць. Загэтым, толькі што прамёрзлы корм ня вельмі шкодзен, калі яго даваць у нязначнай колькасьці прамёрзлым ці талым.

Але справа будзе зусім іншай, калі такі корм даваць жывёле ў значнай колькасьці. Сваім холадам такі корм можа выклікаць у жывёлы розныя занядужаньні ў страўным шляху, як, напрыклад, золзы, уздуцьце жывата, каменьні, а ў цяжарнай жывёлы можа выклікаць прадчасныя роды. Можна часта бачыць нават сьмяротныя выпадкі золзаў у жывёлы якраз у тых выпадках, калі гэта жывёла выпушчалася на пашу пасьля марознай ночы зранку, на пусты жывот альбо калі жывёле давалі ў хлеве прамёрзлае лісьце капусты ці буракоў у значнай колькасьці.

Па словах проф. Дамана, непасрэдна пасьля адтайваньня ці пасьля саграваньня прамёрзлага корму ўжываньне яго ў корм скаціне ня прыносіць шкоды. Але прамёрзлы корм тым шкадней даваць жывёле, калі ў ім ужо пачаўся распад, гніеньне альбо калі яго даюць без абварваньня, параньня і г. д.

Вэтэрынар **М. Жарын.**

# ЗЕМЛЯЎПАРАДКАВАНЬНЕ.

## Аб спрашчэньні і палепшаньні земляўпарадкаваньня.

У сувязі з узрастаючым тэмпам разьвіцьця сельскай гаспадаркі, ростам актыўнасьці і агранамічнай сьвядомасьці сялянства, узрастае адпаведна гэтаму і патрэба ў найхутчэйшым скасаваньні недахопаў землякарыстаньня (церазпалосіцы, далёказямельля і інш.), якія перашкаджаюць хутчэйшаму разьвіцьцю сельскай гаспадаркі.

Узрастае таксама неабходнасьць у дакладнай і бязупыннай агранамічнай, тэхнічнай, крэдытовай і інш. дапамозе тым, што праводзяць у сябе земляўпарадкаваньне, якое спрыяе хутчэйшай перабудове гаспадаркі.

Ва умовах нашага малазямельля, пры вучасткова-падворным парадку землякарыстаньня, з вельмі складанымі і заблутанымі зямельнымі адносінамі і іншымі асаблівасьцямі ў БССР склаўся надзвычайна складаны працэс земляўпарадкаваньня, які для свайго ажыцьцяўленьня патрабуе многа часу і працы нават добра спрактыкаваных спэцыялістых.

Складанасьць працэсу земляўпарадкаваньня пакідае ў зямельных працаўнікоў вельмі мала часу на абслугоўавньне таго-ж насельніцтва ў агранамічным, будаўнічым і іншых кірунках.

Складанасьць працэсу зямляўпарадкаваньня робіць тое, што зямельныя установы пасьпяваюць задавальняць насельніцтва ў земляўпарадкаваньні толькі каля 30 проц.

Усё сказанае вышэй і імкненьне наогул палепшыць земляўпарадкаваньне, як дапамогу сялянству, прымусіла Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня і Мэліорацыі НКЗ прыняць шэраг мер, накіраваных да палепшаньня зямляўпарадкаваньня. Галоўнай мэтай такіх мер трэба прызнаць крокі накіраваныя да рацыяналізацыі працэса зямляўпарадкаваньня.

Кіраўмэліозем дае магчымасьць прыняць удзел у распрацоўцы проэкту земляўпарадкаваньня і найбольш рацыянальнай дапамогі сялянству ўсім, хто цікавіцца гэтай справай (земпрацаўнікі, земляўпарадкавацелі, аграномы, грамадзкія працаўнікі, сялянства, працаўнікі НКЮ РСІ і інш.).

Каб мець больш матар'ялаў па гэтаму пытаньню, Кіраўмэлюземам абвяшчаецца конкурс на лепшы проэкт земляўпарадкаўчага працэсу, а таксама зьвязаных з ім фінансаваньня, аградапамогі, абслугоўваньня, кантролю і г. д.

Па думцы Кіраўмэліозему проэкт найбольш рацыянальнай арганізацыі земляўпарадкаваньня павінен ахапіць, як земляўпарадкаваньне ад заяўкі да поўнага афармленьня, так фінансаваньне земляўпарадкаваньня, крэдытаваньне, аградапамогу, будаўнічую дапамогу, ільготы і г. д.

Ён павінен быць распрацован у напрамку: 1) скарачэньня часу на выкананьне справы, 2) мажлівага скарачэньня інстанцый, праз якія павінна прахадзіць заяўка, а таксама і справа, 3) мажлівага ўпрашчэньня тэхнікі і афармленьняў, 4) дакладнай організацыі кантролю, абслугоўваньня, кіраваньня, 5) вызначэньне форм удзелу насельніцтва ў землеўпарадкаваньні, 6) лепшай організацыі дапамогі і ўвязцы яе з землеўпарадкаваньнем, 7) дакладнай увязкі фінансаваньня з выкананьнем справы, 8) утачненьня абавязкаў і парадку іх выкананьня працаўнікамі і г. д.

Проэкт можна распрацоўваць і бяз сувязі з існуючым нарматыўным матар'ялам; вымагаецца толькі захаваньне агульнага напрамку зямельнай політыкі БССР, але неабходнасьць зьмены асобных артыкулаў Зямельнага Кодэксу, існуючых цыркуляраў, інструкцый па проэкту павінна быць абаснована і прыведзена рэдакцыя артыкулаў пры разборы адпаведных стадый выкананьня справы.

За лепшыя проэкты землеўпарадкаваньня Кіраўмэліоземам устаноўлены тры прэміі: І-я ў 150 руб., ІІ-я ў 100 руб. і ІІІ-я ў 50 руб.

Распрацаваныя проэкты падаюцца ў Кіраўмэліозем, да 15-га лютага 1927 г., пасьля чаго будзе прыступлена да разгледжаньня проэктаў і апрацоўкі матар'ялаў, каб да выхаду ў поле спаўніцеляў мець зусім закончаныя палажэньні аб спрошчаным землеўпарадкавальным процэсе і палепшанай дапамозе сялянству.

**А. Шычко.**

---

## Парадак, умовы і спосабы перасяленьня на Далёкі Ўсход і Сібір [1]).

**Каму дазваляецца перасяляцца.** Як на Далёкі Ўсход, так і ў Сібір сям'я можа палучыць дазвол перасяляцца толькі тады, калі яна мае ня менш $2^1/_2$ работнікаў і мае маемасьць (або грошай) на суму 700 р. пры перасяленьні на Далёкі Ўсход і 600 руб. пры перасяленьні ў Сібір.

Для колектыўных гаспадарак (таварыстваў, арцеляй, камун), норма рабочай сілы зьніжаецца ў сярэднім на гаспадарку да $1^1/_2$ рабочай адзінкі, а сума забясьпечаньня да 400 р. для Сібіру і 500 р. для Д. Ўсходу [2]).

Калі работнікаў ёсьць больш нормы, то мясцовыя зямельныя установы даюць дазвол перасяляцца і пры меншым забясьпечаньні ад 500-700 рублёў; у такім разе на кожнага едака павінна быць па 100 рублёў і ва ўсіх ня менш за 400 руб. Калі двор ня можа задаволіць гэтым вымаганьням, то яму няма чаго турбавацца: бо зямельныя установы ня могуць даваць яму дазволу на перасяленьне.

**Якія абавязкі перасяленца.** Той, хто хоча перасяліцца, павінен азнаёміцца з зямлёю сам, альбо паслаўшы туды хадакоў. Павінен выбраць там вучастак зямлі, разузнаць, якая там глеба, ці падыходзіць клімат, што сеецца, якія бываюць ураджаі, як там вядуць гаспадарку і г. д. Хадакоў абавязкова трэба высылаць толькі з тых людзей, якія самі думаюць перасяліцца. Перасяляючыяся павінны пасылаць столькі хадакоў, каб на кожныя 10 двароў прыходзіўся адзін хадак.

**Хадакі павінны запасьціся такімі дакумантамі**: 1. Пасямейна-маемаснымі сьпісамі, у якіх павінны быць паказаны склад кожнага сямейства і яго забясьпечанасьць.

2. Даверанасьцю ад тых сялян, якія пасылаюць хадака.

3. Хадацкае пасьведчаньне, якое выдаецца Акруговым Зямельным Аддзелам. Каб палучыць гэтае пасьведчаньне, трэба падаць заяву ў Акр. Зям. Аддзел праз Раённы Выканаўчы Камітэт. Да заявы трэба падаць пасямейна-маемасныя сьпісы за подпісамі сельсавета і даверанасьць, пасьведчаная райвыканкомам у тым, што хадак запраўды ўпаўнаважаны аглядзець і выбраць вучасткі зямлі. Хадак карыстаецца ільготным білетам—плаціць чацьвёртую часьць праезда па чыгунцы.

---

[1]) Гл. „Плуг" № 12, 1926 г.

[2]) Поўным работнікам лічыцца мужчына ад 18—55 год і жанчына ад 15—45 г. Падросткі ад 14-18 год і старыя лічацца за палову рабочай сілы. Дзеці да 14 гадоў, зусім старыя, а таксама калекі лічацца непрацаздольнымі.

**Якія абавязкі ўскладаюцца на хадака**. Як толькі хадак прыехаў на месца, куды думаюць перасяліцца, ён зараз-жа там павінен зьявіцца да загадчыка работамі, па засяленьню перасяленцаў і паказаць свае дакуманты. Пасьля гэтага хадак разглядае паказаныя загадчыкам вучасткі зямлі. Па аглядзе і выбары вучастку хадак ізноў зьяўляецца да загадчыка засяленьня для замацаваньня зямлі за сабою і сваімі выбаршчыкамі. Хадак палучае пасьведчаньне, што з ім і яго выбаршчыкамі замацаваны пэўны вучастак зямлі, альбо на яго пасьведчаньні робіцца паметка і абазначаецца, на які тэрмін абраныя вучасткі захоўваюцца за хадаком. Хэдак павінен яшчэ дасканала азнаёміцца з жыцьцём перасяленцаў у тым раёне, якія раней туды пераехалі, калі толькі яны ёсьць.

Далей ад загадчыка засяленьня хадак палучае пасьведчаньне на ільготны праезд дадому. Зьвярнуўшыся дадому, хадак павінен дасканала растлумачыць сваім выбаршчыкам аб выніках яго паездкі.

**За хадака трэба выбіраць чалавека сталага,** бывалага, разьбітнога, сумленнага, сьмелага, асьцярожнага. Бываюць такія спрытныя людзі, якім абы праехацца на чужыя грошы; такіх ня трэба пасылаць. Другі і рад быў бы ўсё праведаць і дапамагчы сваім сялянам, але ў яго няма той здольнасьці, каб абмяркаваць, ці можна будзе жыць на тых вучастках, што ён выбраў. Трэці можа наслухацца ўсякіх страхаў ад старажыла і па сваёй прастаце ім і паверыць. А старажылы часамі любяць напалохаць хадака марозамі, разбойнікамі і неўраджаямі. Хадаку гэта трэба слухаць, але меркаваць пасвойму.

**Якія дакумэнты і дзе павінны палучаць перасяленцы ў сябе на месцы перад ад'ездам.**

Перад выездам на новае месца перасяленцы павінны палучыць перасяленскае пасьведчаньне і пасьведчаньне на ільготны праезд сям'і, правоз багажа і маемасьці. Гэтыя дакуманты можна палучыць у Акруговым Зямельным Аддзеле, для чаго туды трэба падаць хадацкае пасьведчаньне з паметкай аб замацаваньні вучасткаў. Перасяленскія пасьведчаньні трэба падаваць па прыезьдзе на новае месца загадчыку засяленьня. Без такога пасьведчаньня перасяленец ня будзе карыстацца тымі ільготамі, якімі карыстаюцца законныя перасяленцы.

**Парадак адпраўкі перасяленцаў з месца выхаду**. Калі трэба выжджаць і грузіць маемасьць, абвяшчае Акрземаддзел. У назначаны час усе павінны зьявіцца на станцыю. Калі перасяленцы едуць з'арганізавана, то дзяржава дапамае ім у дарозе харчамі (захварэўшых лечаць).

Дзецям перасяленцаў павінна быць абавязкова прышчыплена воспа, інакш на прапускных пунктах Сібіру іх ня пусьцяць.

**Значэньне таварыскага аб'яднаньня**. Спачатку умовы жыцьця перасяленца ў новым месцы вельмі цяжкія. Гэтыя цяжкасьці шмат лягчэй перамагчымы, калі перасяленцы аб'яднаны ў сельска-гаспадарчае коопэрацыйнае перасяленскае таварыства. Выгад ад такога аб'яднаньня шмат.

1. Аб'яднаным у таварыства перасяленцам лягчэй палучыць дазвол на перасяленьне (рабочай сілы ў сярэднім на двор можна мець меней $2^1/_2$ адзінак і менш грошай на 200 р.).

2. Каб абзавесьціся гаспадаркай таварыству лягчэй палучыць крэдыт грашыма, насеньнем і с.-г. машынамі.

3. Перасяленскім таварыствам на новым месцы зямельныя установы ў першую чаргу дапамагаюць упарадкаваць гаспадарку.

4. Перасяленскім таварыствам грашовая пазычка можа быць выдана ўся адразу, а ня часткамі, як гэта даецца перасяленцам-адзіночкам.

5. Агульнымі сіламі лягчэй удаецца наладзіць і паставіць на правільны шлях гаспадарку.

Вельмі важна, каб людзі, якія складаюць таварыства, ведалі адзін другога, альбо былі з аднэй ці з суседніх вёсак.

**Практычныя парады**. Таварыству спачатку трэба паслаць рабочую дружыну прыкладам к ліпеню месяцу, каб яна прызапасіла корм, а позна ўвосень яны купяць плугі і коні, бо на весну яны вельмі дарагія. За зіму трэба падрыхтаваць лясны матар'ял на будынкі. Частку рабочай дружыны можна паслаць у заработкі.

Вясною трэба падняць цаліну, засеяць хоць-бы заарэндаваную зямлю ў старажылаў. К гэтаму часу могуць прыехаць і сем'і. К восені ўжо будзе гатова будоўля, будзе і свой хлеб.

А гэтым і канчацца першыя і самыя цяжкія крокі перасяленца на новым месцы.

П. Бойка.

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 62. Чым трэба кіравацца пры разглядзе спраў, якія пачынаюцца лясьніцтвамі аб расчыстках і захопах насельніцтвам падлесных плошчаў (Мазырская акрземкамісія).

Адказ. Справы аб расчыстках насельніцтвам падлесных плошчаў у старой Меншчыне ў залежнасьці ад часу захопу павінны разьвязвацца не аднакава: а) на падставе пунктаў 1, 11 і 13 тэзісаў Наркамзема па аграрнаму пытаньню, зацьверджаных 17 сьнежня 1920 г. 2-м Усебеларускім З'ездам Саветаў; расчысткі, якія зроблены раней гэтага часу, увайшлі ў склад зямель працоўнага карыстаньня. Дзеля гэтага быўшая падлесная зямля можа быць зямельнаю камісіяй адабрана з працоўнага землякарыстаньня толькі на падставах, прадугледжаных 17, 22 і 58 арт. зям. код., б) па расчыстках, якія зроблены насельніцтвам з 17 сьнежня 1920 г. да 1 студзеня 1922 г., судовыя справы спыняюцца і захопы зямлі ліквідуюцца ў парадку, прадугледжаным п. 1 і 3 пастановы Прэзыдыума ЦВК за 24 кастрычніка 1922 г. воранных і сенажатных вучастках у лясох, в) урэшце, справы аб расчыстках, якія зроблены пасьля 1 студзеня 1922 г., не падсудны зямельным камісіям, бо захопленыя землі пазастаюцца ў складзе ляснога фонду.

Пытаньне 63. Ці падлягаюць разгляду акруговай зямельнай камісіі бяспрэчныя справы лішкаў зямлі ад буйных гаспадарак, калі лішкамі гэтымі адначасна надзяляюцца безьзямельныя і малазямельныя грамадзяне?

Адказ. Кожная бяз выключэньня земляўпарадкаўчая справа пасьля разгляду яе раённай зямельнай камісіяй прадстаўляецца на канчатковы разгляд у акруговую зямельную камісію.

Пытаньне 64. Ці можна лічыць безьзямельнымі і надзяляць зямлёю членаў двара, якім народны суд выдзяліў частку агульнае маемасьці (Менская акрземкамісія).

Адказ. Толькі тыя члены двара могуць лічыцца безьзямельнымі, якія адмовяцца ад зямлі свайго двара і выйдуць з яго складу. Надзяляюцца яны зямлёю ў агульным парадку.

Пытаньне 65. Ці падлягаюць рэгістрацыі райвыканкома дагаворы аб прыняцьці ў сялянскі двор новых членаў?

Адказ. На падставе 64 арт. зям. код. сялянскі двор можа павялічыць свой склад шляхам прыёму новых членаў. Афармленьне гэтага прыёму не зьяўляецца абавязковым. Аднак, члены двара могуць аформіць прыём новага члена ў склад двара шляхам складаньня хатняга пісьмовага дагавору. Апошні па іх заяве запісваецца ў агульную кнігу зьдзелак. Незалежна ад гэтага аб адбыўшыхся зьменах у складзе двароў сельсавет адзначае ў падворных сьпісах.




## „На наш век хопіць“.

Такі адказ вельмі часта можна чуць ад сялян, калі пры сустрэчах і размовах з імі кажам, што лесу ў нас ня надта многа і трэба яго берагчы.

Ці-ж мае гэта прыказка які-небудзь грунт пад сабою ў сучасны момант? Не, ня мае. Калі ўгледзецца ў эканамічную карту лясоў СССР, то мы бачым, што Беларусь займае на ёй мясцовасьць з лясістасьцю ў сярэднім 30 проц., а па статыстыцы Ляснога Кіраўніцтва большасьць раёнаў БССР мае толькі 25 проц. лясістасьці, гэта значыць, што на 100 дзес. агульнай плошчы зямлі лесам пакрыта толькі 25 дзес., а штогодны прырост дасягае толькі $^1/_4$ таксацыйнага сажн. з дзесяціны ў той час, калі нармальна ён павінен быць у 3 разы больш. Адгэтуль ужо відаць, што прыказка „на наш век хопіць“... ня мае зараз пад сабою грунта і ёсьць перажытак старага часу, калі лес наступаў на поле і насельніцтва было шмат менш.

Зараз, акрамя насельніцтва, лесу патрабуюць у значнай колькасьці прамысловасьць, дзяржаўныя і мясцовыя установы, саматужнікі, школы і інш. А трэба-ж яшчэ дзеля паляпшэньня агульнага дабрабыту дзяржавы, як ні цяжка, прадаць трохі замежы. Суседзсва Беларусі з Заходняй Эўропай робіць гандаль лесам хуткім і танным, адкуль і добры прыбытак. А гандляваць таксама трэба, бо занялад гандлю моцна б‘е па народнай гаспадарцы, а тым самым і па сялянскай, не даючы магчымасьці ёй паляпшацца.

Вось і трэба ўважлівей адносіцца да лесу і эканомней яго расходаваць, тады хопіць ня толькі на наш век, але і на заўсёды. Ня трэба толькі паліць лес, красьці, псаваць маладняк, пракладаць непатрэбных дарог, якіх шмат робяць у гразкае надвор‘е, ня трэба пасьвіць жывёлу па культурах, палянах і дрэвастанах з падростам ясеня, дубу, ліпы і інш. дарагіх парод, бо ўсё гэта зьмяншае лясныя плошчы, затрымоўвае рост, а тым самым зьмяншае каштоўнасьць дрэвастану.

Лес мае цяпер аднаго моцнага гаспадара—працоўную масу, якая і павінна яго шанаваць, як свой накоплены за доўгі час капітал. Старую пагаворку: „Хто ў лесе ня злодзей, той дома не гаспадар“, трэба ўжо зьмяніць іншую: „Хто ашчаджае лес, таму падзякуюць дзеці, а хто зьністажае—таго праклянуць унукі“.

**Т. Гаўрыловіч.**

---

# Нашы лясныя пароды.

На Беларусі мы сустракаем шмат розных лясных парод, якія даюць багаты матар'ял на розныя гаспадарчыя патрэбы. Але ня ўсе пароды аднолькавы па сваёй якасьці, ад чаго залежаць і розныя віды ўжываньня іх у практычным жыцьці.

Усе нашы пароды можна падзяліць на тры асноўныя групы:

1) хвойныя — сасна, елка; 2) цьвярдыя ліставыя — дуб, ясень, вязь, вярба, каштан ігруша; 3) мяккія ліставыя — вольха, бяроза, ліпа, вярба.

Хвойныя пароды. Нашы лясы складаюцца пераважна з хвойных парод. У будаўніцтве і іншых гаспадарчых драўляных вырабах найбольш ужываюцца сасна і елка. Яны маюць роўныя, простыя ствалы, але драўніна іх зьмяшчае так званыя смаляныя ходы, якія шкодзяць пекнаму вырабу іх інструмантамі.

Перапілаваўшы дрэва ўпоперак, у гадавых слаёх ясна відаць разьдзяленьне асеньняй і вясеньняй драўніны: першая цямнейшая, шчытнейшая і цьвярдзейшая, а другая больш сьветлая і мякчэйшая.

Хвойныя пароды, дзякуючы прысутнасьці смалістай матэры, ня так хутка падпадаюць трухлявасьці, як ліставыя. Абалона пасьля зрэзу ясна аддзяляецца ад стрыжня, асабліва сасны. Абалона зьмяшчае больш вадзяністых сокаў, чымся стрыжань і скарэй псуецца, ад чаго стрыжнёвы хвойны лес цэніцца даражэй абалоністага. Смалістыя матэрыі надаюць хвойным пародам характэрны прыемны пах, адсутнасьць якога служыць прыметай таго, што дрэва псуецца.

Сасна. Сасна прадстаўляе адну з найбольш распаўсюджаных лясных парод. Здаецца, няма таго месца, дзе-б яна не расла. Яна забіраецца на самую поўнач у тундры, дзе мае від нізкага хмызьняку, заходзіць далёка на поўдзень; узьбіраецца на самыя высокія горы і спускаецца ў лагчыны; уваходзіць у склад як мешаных лясоў, так і ўтварае чыстыя бары. Добра колецца і дзярэцца на драніцы і лучыну. Колер драўніны чырвона-жоўты. Моцнасьць сасны ўсім вядома і залежыць пераважна ад смалістасьці і дробнаслойнасьці. Усушка ня вельмі вялікая, каля 3%. У розныя моманты свайго жыцьця сасна дае розны матар'ял, але найболш яе ўжываюць на бярвеньне ва ўзросьце 80-120 г. Ніжняя калода сасны мацней верхняй, бо верхавіна больш вадзяністая і зьмяшчае многа сокаў. Найбольш сасна ўжываецца ў будаўніцтве. З яе робяць бярвэньне на сьцены, бэлькі, крохвы, латы на стрэхі; дошкі на падлогу, столь і г. д. Рамы ў вокны нават і ў камяніцах робяцца абавязкова хваёвыя, таксама вушакі, дзьверы, ды і не пералічыш усіх тых прылад гаспадаркі, якія робяцца з сасны.

З сасновых карчоў гоняць дзёгаць, смалу, шпігінар. З жывога дрэва спускаюць смалу, з якой гоняць лепшы, на лекарства, шпігінар, каніфоль і воцат. Каніфоль патрэбна для вырабу паперы, мыла і для пасыпкі прыводных пасаў на заводах.

Елка. Елка трохі менш распаўсюджана, чым сасна. Яна лічыцца больш паўночнай пародай і далёка на поўдні не сустракаецца. Елка ня так смаліста, як сасна, драўніна яе лягчэй сасновай і, дзякуючы дзешавізьне, у некаторых вырабах яе бяруць ахватней, чым сасну; напрыклад, з яе робяць мэблі і пасьля заклейваюць фанерай. Сталяры бяруць яе дзеля таго, што дошкі з елкі ня так каробяцца і покаюцца, як сасновыя. Драўніна елкі слабей сасновай і трымаецца добра толькі

ў сухім месцы, а ў вільготным хутка загнівае і псуецца. Добра-ж высушаная трымаецца даўжэй і мацней. Каму невядомы, напрыклад, скрынкі розных гатункаў з яловых дошчачак. Яловы лес, наогул, сукаваты і яго драўніна абрабляецца горш за сасновую, а таму для чыстай работы мала прыгодна.

Драўніна елкі мае сьветла-ружовы колер з шырокімі гадавымі слаямі. Драўніна нероўнамернай шчытнасьці, даволі мяккая. Усыхае мала, каля 2-3%. Найлепшы ўзрост для рубкі елкі 80-100 г.

У будаўніцтве яловую драўніну трэба ўжываць там, дзе яна можа быць захавана ад вільгацы; з яе добра рабіць гонт. Добра высушаны гонт ляжыць больш за асінавы. Акрамя будаўніцтва, елка мае шырокае ўжываньне ў прамысловасьці. Яе труць на дробны парашок, так званую цэлюлёзу, і потым робяць паперу (праўда, горшыя сарты). Кожны, хто чытае газэту, ці кнігу, павінен помніць, што ён трымае ў руках перапрацованую яловую драўніну.

Наша беларуская елка за сваю рознаслойнасьць лічыцца найлепшай на сьвеце для вырабу інструмантаў, скрынак і інш. Кара елкі зьмяшчае гарбарныя матэрыі і ўжываецца пры вырабу скуры. Дровы яловыя горшыя ад сасновых—ня вельмі палкія і надта трашчаць у печы.

Елка не баіцца цені другіх дрэў і завецца ценятрывалай пародай, пускае шмат тонкіх і доўгіх сукоў. Сяляне часта абсякаюць яловыя сукі на частакол. Гэтакія частаколы вельмі моцныя і стаяць шмат год. Сухі яловы сук цьвярды, як костка, і яго ўсячэш толькі добрай сякераю. Цяпер, у нас, калі на дрэва становіцца з кожным годам усё скупей і скупей, трэба раіць усім сялянам ужываць такія частаколы. Яловых лясоў у нас мала і трэба помніць, што з маленства елка кволая і дрэнна паддаецца натуральнаму аднаўленьню. Адным словам, елка мае сусветнае значэньне і вялікую будучыну. Шануйце-ж яе.

**М. Шалупенка.**

# КРАЯЗНЎСТВА

## Гаспадарка Пётры Бенгардта.

*(З матэрыялу І-га Усебел. Конкурса).*

*Агульныя веды.* Гаспадарка гр. Бенгардта знаходзілася на адлегласьці 25 вёрст ад гор. Полацка і ў 12 вярст. ад чугуначнай станцыі Баравухі.

Сям'я Бенгардта складаецца з 6-ці асоб, з якіх 2-е падросткаў.

Усёй зямлі ў гаспадарцы 23,74 д. з якой:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| пахаці . . | 12 | дес. | гароду . . . | 800 кв. с. |
| сенажаці сухадол | 2 | „ | саду . . . | 1600 „ „ |
| „ балот. . | 5 | „ | прысялібнай зямлі . | 0,68 д. |
| выгану . . | 1,74 | „ | пад дарогамі і вадою . | 1,32 д. |

Наёмная праца ў гаспадарцы прымяняецца толькі пры сэзоннай палявой рабоце.

Форма землякарыстаньня—хутарская. Пахаць не знаходзіцца ў адным кавалку, а прарэзваецца сенакосам; сярэдняя адлегласьць ад сялібы 250 саж.

**1. Будынкі гаспадаркі.**

1) Дом
2) Малачарня
3) Гумно
4) 2 хлявы
5) Стайня з вазоўняй
6) Будынак для сена
7) Пограб

**2. С.-г. машыны.**

Малатарня 2-х сільная з саломатрасам
Жняярка Мак-Корнік
Касілка швэцкай фірмы
Лёнатрапалка з прыводам
Сячкарня
Лушчыльнік 4-х лямешны
Пружыноўка
2 параконных плуга Сакка.

Усе гэтыя машыны куплены самім гаспадаром.

*3. Скаціна.* Коняй 2-е, кароў 7, мяладняка 4 шт.

Сярэдняя жывая вага кароў 24 пуды.

Апрача гэтага, ў гаспадарцы ёсьць сьвіньні (4 шт.) і 9 шт. авечак палепшанай пароды. Жывая вага авечкі больш 4-х пудоў. Сельскагаспадарчага падатку заплаціла гаспадарка ў 1926 г. 94 р. Пабочных заработкаў гаспадарка ня мае. Вядзецца дакладная прыхода-расходная запісь у гаспадарцы.

*Ральніцтва.* Большая частка зямлі ў гаспадарцы цяжкі суглінак з глінай у падглебе, мясцамі сустракаецца падзолістая глеба.

З 1922 году гаспадаром заведзен 9-ці польны севазварот—1) папар чысты, 2) жыта з пасевам канюшыны, 3-4) канюшына, 5) ярына, 6) авёс, 7) папар заняты, 8) азімая пшаніца і 9) ярына. У кожны полі прыблізна 1 дзес. У яравым полі пасьля канюшыны высяваецца бульба і лён. Апрача гэтага севазвароту на прысялібнай зямлі на плошчы 2-х дзес. сеецца для летняй падкормкі скаціны выка, канюшына і караньплоды, (морква і кармовыя буракі) з прымяненьнем мінэральнага ўгнаеньня (калійнай солі 6 пуд. на дзес, і супэрфосфату—12 пуд. на дзес.). Ураджай расьлін за 1925 г.

Жыта—120 п., авёс—100 п., пшаніцы аз.—160 п., выкі—120 п. сена, канюшыны—300 п,, бульбы—800 п., лён вал.—42 п. і насеньня—30 п.

У сярэднім за тры гады—жыта—120 п., авёс—80 п., азімая пшаніца—130 п., выка—180 п., канюшына—300 п., бульба—700 п.

Першая ўзорка папару бывае ў траўні месяцы і за лета да пасеву азімых папар лушчыцца 3—4 разы, у залежнасьці ад зарастаньня сарнякамі.

Пачалі сеяць у гаспадарцы канюшыну, выку і караньплоды з 1922 г. З сартавога збожжа высяваецца жыта „кустойка“ і насеньне паляпшаецца сартаваньнем, пратручваньнем і пераменай пасеўнага матар‘ялу.

У гаспадарцы ўзрашчваецца выка і канюшына, частка насеньня якіх прадаецца мясцоваму насельніцтву. Пасеў рукамі.

Галоўным угнаеньнем у гаспадарцы зьяўляецца гной, які кладзецца пад жыта і бульбу ў разьмеры 1500 п. на дзес. Апрача таго пад жыта кладзецца 18 п. тамасаўкі і 4 пуды калійнай солі, а пад бульбу—12 пуд. супэрфосфату і 6 п. калійнай солі.

Попел у гаспадарцы скарыстоўваецца для ўгнаеньня сенажаці.

Для барацьбы з сарнякамі ў гаспадарцы праводзіцца лушчэньне пад азімыя, узорка на зяб, правільны і добры выраб папару. Апрача таго, ў гаспадарцы прымяняецца баранаваньне вясной жыта і канюшыны, правільны і культурны догляд за полем.

*Жывёлагадоўля.* Хлеў для скаціны цёплы, чысты, сьветлы, часта праветрываецца, ёсьць дацкія кармушкі, скаціна стаіць прывязанай.

Корміцца скаціна па дацкіх нормах з дачай спажытнага корму (макуха і высеўкі) і вадяністых—кармовых буракоў і морквы) Летам скаціна падкармліваецца канюшынай, выкай і па 2 ф. высевак з макухай. Зімою корм скаціне даюць 3 разы ў дзень.

1. Кораньплодаў . 10 ф. з 3 ф. высевак у 5 г. раньня.
2. Канюшыны . . 10 „
3. Выкі . . . . . 10 „ . . . „ 1 „ дня.
4. Кораньплодаў . 10 „ з $2^1/_2$ ф. макухі „ 7 „ веч.
5. Сена з саломай 10 „

Каровы дояцца тры разы ў дзень у 4 г. раньня, у поўдзень і ў 8 г. вечары. Сярэднія гадавыя удоі кароў 240 вёдзер малака. Учот вядзецца па пробным удоям 1,10 і 20 кожнага месяца. З прычыны таго, што гаспадарка далёка знаходзіцца ад гораду, малако перарабляецца ў гаспадарцы на сьметанковае масла, якое на рынку цэніцца на 30 проц. даражэй. У гаспадарцы ёсьць увесь патрэбны малочна-масларобчы інвэнтар і памяшканьне.

Узрашчываньне маладняка ў гаспадарцы вядзецца правільна.

Гадоўля сьвіней у гаспадарцы мае спажывецкае значэньне. Трымаюць сьвіней у цёплым і сьветлым памяшканьні, ёсьць спэцыяльна адгароджаны для іх вучастак.

Для абслугаваньня свайго стада быў у гаспадарцы племянік „швіцкай пароды“, якога прадалі вясной 1926 г., бо быў ужо стары.

Скаціна ня толькі аплачвае свой корм, але дзякуючы высокім удоям дае чыстага даходу гаспадарцы ад 80 да 100 руб. кожны м-ц.

Утрыманьне, кармленьне і догляд за скацінай—культурны.

*Садаўніцтва і гародніцтва.* Сад, які ёсьць у гаспадарцы, мае галоўным чынам, спажывецкае значэньне. Усяго 80 шт. дрэў ва ўзросьце больш 30 год. Кожны год прадаецца да 100 п. яблык. У садзе больш усяго антонаўкі. Ураджайнасьць дрэў да 5-ці пуд. Яблыкі прадаюцца ў сярэднім па 1 р. У садзе праводзіцца абрэзка і прарэджваньне карон, бяленьне і ачыстка ствалоў, акопка дрэў і абпырскваньне іх кожнай вясной, праз год сад узорваецца. Ёсьць невялікі выхавальнік у 40—50 прышчэп для абслугованьня свайго саду і на продаж.

У гародзе сеецца капуста, бульба, буракі, морква і стручковыя. Гарод мае спажывецкае значэньне. Ураджай гародніны ў сярэднім морква—3500 п., буракі 300 п., бульбы 120 п.

*Лугаводзтва.* Сенажаць кожны год барануецца і ўгнойваецца попелам. Сярэдняя ўражайнасьць сухадола—125 п. з десяціны, балотнага —100 п. з дзес. Восеньню гэтага году будзе праведзена канчатковае паляпшэньне сенажаці. Большасьць канаў ужо пракопана. Гуменным кормам гаспадарка забясьпечана.

*Пчалярства.* Усяго ў гаспадарцы ёсьць 5 сем'яў, якія знаходзяцца ў рамавых вульлях сыстёмы Дадан-Блата. Ёсьсь патрэбны пчаліны інвэнтар. Збор мёду з вульля каля 2-х пудоў.

*Культурная праца.* Гр. Бенгардт П. І. зьяўляецца членам патрэбкоопэрацыі „Заря“, і сельска-гаспадарчага т-ва „Культура“, засядацелям раённага Нарсуда 2-га вучастку і корэспондэнтам ЦСУ. Прымаў удзел на ўсіх раённых с.-г. выстаўках, дзе заўсёды прэміраваўся найбольшымі ўзнагародамі і ганаровымі дыплёмамі за культурнае вядзеньне гаспадаркі. Мае с.-г. бібліотэчку, цікавіцца ведамі па сельскай гаспадарцы і ўсё, што раіць аграном праводзіць у жыцьцё.

Бенгардта лічаць культурным гаспадаром і сяляне зьвяртаюцца да яго за насеньнем канюшыны, выкі ,пладовых дрэў і г. д.

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Аб лясох на зямлі, якая перадаецца сялянству з зямельнага фонду.

*(11 кастрычніка 1926 г. „С. Б.“ № 251).*

Савет Народных Камісараў БССР для разьвіцьця пастановы IV Сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР VI скліканьня за 1925 г. „Аб захадах па дадатковым надзяленьні зямлёю безьзямельных і зусім малазямельных сялян“ (З. З. БССР 1925 г. № 8 арт. 66) *пастанаўляе:*

1. Лес з плошчаў, якія перадаюцца ў зямельны фонд, каб хутчэй ачысьціць ад яго глебу пад сельска-гаспадарчае карыстаньне, павінен быць высечаны ў бліжэйшы час і перш за ўсё там, дзе зямляўпарадкоўваецца насяленьне.

2. Лес на плошчах, якія перадаюцца з лясного фонду ў зямельны, грубінёю 2 вяршка і менш, пакідаецца тым зямлякарыстальнікам, якім гэтыя плошчы перадаюцца для сельска-гаспадарчага карыстаньня.

3. Рэшту лесу адпушчаецца: у першую чаргу бясплатна ў межах сапраўднае патрэбы і ня больш устаноўленых норм насяленьню, якому перадаюцца плошчы з-пад гэтага лесу; у другую чаргу—іншым грамадзянам на агульных падставах.

*УВАГА.* Адзначаны ў гэтым пункце лес уключаецца ў лясны фонд, прызначаны для льготнае і дарэмнае выдачы лесу на мясцовыя патрэбы.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР *Яз. Адамовіч.*

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР *М. Мароз.*

---

## Палажэньне аб дзяржаўна-грамазкім насенным натуральным фондзе Б. С. С. Р.

*(11 кастрычніка 1926 г., „Сав. Бел.“ № 254).*

**I. Прызначэньне насеннага фонду.** 1. Асноўнаю мэтаю ўтварэньня дзяржаўна-грамадзкага насеннага фонду, які знаходзіцца пад ведамам камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, зьяўляюцца:

а) забясьпечаньне пасеўным матар'ялам незаможнага вясковага насяленьня ў часы пасеваў, насенная дапамога паасобным гаспадаркам, заняпаўшым ад памору на жывёлу, сьмерці або мобілізацыі работнікаў і г. д., а таксама насенная дапамога новаўтвораным сялянскім гаспадаркам, расьсяленцам і інш.;

б) насенная дапамога сялянству раёнаў, якія панесьлі страту ад неўраджаяў і іншых стыхійных няшчасьцяў;

в) палепшаньне сялянскага пасеўнага матар'ялу праз абмен сабраных запасаў на гатунковае і палепшанае насеньне.

**II. Утварэньне фонду.** 2. Для дасягненьня зазначаных вышэй мэт дзяржаўна-грамадзкі насенны фонд утвараецца са збожжа (аўсу, ячменю, жыта, пшаніцы і грэчкі) і захоўваецца ў натуральным відзе.

3. Насенны фонд утвараецца з

а) спэцыяльнага асыгнаваньня Ураду БССР;

б) сродкаў і насенных запасаў камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і грамадзка-насенных пасеваў;

в) насенных запасаў, паступаючых на ўзварот завінавачанасьці па насенных пазычках ад пазычкоўцаў мінулых гадоў.

4. Адносна натуры, чыстаты, усходу і вільготнасьці насенны фонд павінен адпавядаць вымаганьням пастановы аб урэгуляваньні гандлю насеньнем (З. З. БССР 1923 году № 15—16 арт. 142).

**III. Скарыстаньне насеннага фонду.** 5. Насенныя пазычкі выдаюцца камітэтам сялянскага таварыства ўзаемадапамогі пад даўгавыя абавязнасьці і аддаюцца ў натуры з налічэньнем ня больш 12 проц. гадавых на організацыйныя і іншыя патрэбы (арт. 7—8).

6. Пазычка павінна быць аддадзена кожным плацежнікам пазычкі пасьля сабраньня ўраджаю і ва ўсякім выпадку не пазьней 15 сьнежня. За прапушчаны час налічаецца пеня ў разьмеры 1 проц. за кожны прапушчаны месяц.

*Увага:* У выпадку неўраджаю ў гаспадарцы і іншых стыхійных няшчасьцяў, выплата пазычкі паасобнымі гаспадарамі можа быць адкладзена ўся або часткова пастановаю камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі.

**IV. Захаваньне, загадваньне, справаздачнасьць і кантроль.** 7. Для захаваньня насенных запасаў камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі на мясцох маюць права скарыстоўваць запасныя збожжавыя магазыны, дзе яны захаваліся, або будаваць новыя памяшканьні.

8. Насенны фонд, памяшканьне для яго і абсталяваньне памяшканьня павінны абавязкова страхавацца.

9. Як агульнае кіраваньне зборам насеннае пазычкі, так і ўся тэхніка прыйманьня насеньня, якое аддаецца назад (падлік, справаздача), ускладаецца на Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі і на яго мясцовыя органы.

10. Агульны кантроль за дзяржаўна-грамадзкім насенным фондам, за станам, папаўненьнем, выдачамі, захаваньнем і за справаздачнасьцю ўскладаецца на Народны Камісарыят Земляробства і на яго мясцовыя органы. Старшыня Савету Народных Камісараў БССР *Яз. Адамовіч.* Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР *М. Мароз.*

---

*Разгледжана і прынята*
*Калегіяй НКЗ 15-X 1926 г.*
*Пратакол № 44.*

## Палажэньне аб лясох мясцовага значэньня, маючых заслонны характар.

1. Лясы, узмацняючыя сваёй каранёвай сыстэмай глебу, забясьпечваючыя апошнюю ад размываньня і іншых пашкоджаньняў, ад пераходу глебы ў лятучыя пяскі і захаваньне якіх дзеля гэтага неабходна ў інтарэсах як сельскае, так і лясной гаспадаркі,—зьяўляюцца заслоннымі лясамі.

2. Да катэгорыі заслонных належаць наступныя лясы і хмызьнякі:

а) узмацоўваючыя лятучыя пяскі, ці перашкаджаючыя іх распаўсюджваньню;

б) абараняючыя берагі рэчак і водных крыніц ад абрываў, размываньня і пашкоджаньняў ледаходам;

в) перашкаджаючыя вытварэньню яраў, як растучых на стромах і схілах з глебай лёгка размываемай.

3. Заслонныя лясы быўшага сялянскага ўладаньня, згодна арт. 5 увагі Ляснога Кодэксу, могуць перадавацца, як лясы мясцовага значэньня, сялянству на правох абмяжованага карыстаньня адпаведна іх заслоннаму значэньню.

4. Высьвятленьне лясных плошчаў у дачах мясцовага значэньня, маючых заслонны характар, ускладаецца на ляснічых. Права падымаць гэтае пытаньне прадстаўляецца ўсім зацікаўленым установам і асобам.

Прызнаньне ляснога вучастку заслонным устанаўляецца ляснічым пры ўдзельніцтве прадстаўніка РВК-ту, аб чым складаецца адпаведны акт, зацьвярджаемы АКРЗА. У выпадках спрэчнасьці—пытаньне на канчатковае вырашэньне перадаецца ў НКЗ.

5. У заслонных лясох мясцовага значэньня карыстаньне павінна быць падпарадкавана галоўнай задачы, правадзімай у гэтых лясох, а гэта значыць усямернаму захаваньню і аднаўленьню лесу дзеля ажыцьцяўленьня памянёных у п. 2 заслонных мэтаў.

6. Уперад да ўпарадкаваньня ў заслонных лясох мясцовага значэньня—дазваляецца толькі прыбіраньне мёртвага лесу і павалу.

---

*Цыркуляр*

## Аб спыненьні перадачы плошчаў у зямельны фонд.

*Усім АКРЗА*

Прымаючы пад увагу: 1) што Наркамземам перадана значная лясная плошча ў зямельны фонд для мэтаў землянадзяленьня і ўпарадкаваньня межаў ляснога фонду;

2) што ў сучасны момант адчуваецца значны недахоп у драўніне, атрымоўваемай з гадовае лесасекі на здавальненьне патрэб насельніцтва і прамысловасьці і

3) што далейшая перадача шкодна адзавецца, як на памянёным здавальненьні патрэб у драўніне, так і на лясным прыбытку дзяржавы—

Наркамзем прапануе далейшую перадачу лясных плошчаў у зямельны фонд спыніць і разглядзець толькі тыя пытаньні, па якім ужо зроблена асобнае распараджэньне камісіі НКЗ ці ляснога кіраўніцтва. На далейшы час перадача нязначных плошчаў з ляснога фонду ў зямельны, ці наадварот,—можа адбывацца толькі ў парадку лесаўпарадкаваньня ці землеўпарадкаваньня. Гэты абежнік выдаецца ў дадатак да абежніку № 51/5761 ад 8/III—1926 г. Ляснога Кіраўніцтва. Нам. Наркамзема *Валодзька.* Час. вык. аб. Нач. Лясн. Кіраў-ва *Лунскі.*

---

**Выданьне Наркамзема.** Ад. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**
Рэд. кал. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Сьц. Тупяневіч.*

# Паштовая скрынка.

**Я. Валодзьку** (в. Валіцкаўшчына). Вы паказалі вельмі высок ўраджай канюшыны—375 п. на поўдзес.

Агранамічная практыка на Беларусі яшчэ ня мела такіх ураджаяў.

**Падпішчыку Казырэўскаму.** У бліжэйшых нумарох будзе надрукованы артыкул інжынэра Ч. Родзевіча „Як правільна пабудаваць сялянскі двор“.

**Селяніну А. Магучаму.** Сэзонны матар'ял па пчалярству прысылайце, таксама прысылайце і інш. матар'ял.

# Вышлі з друку:

*Тупяневіч і Заяц* За лепшую гаспадарку—25 к.

*П. Бойка і А. Веялкін.* Что должен знать переселенец о Дальнем Востоке и Сибири—30 к.

*Б, Бабіцкі.* Производственные минимумы в крестьянском хозяйстве—25 к.

Переспективный план НКЗ на 1925-30 г. в выпусках:

1) Естественно-исторические и экономические условия развития сельского и лесного хозяйства БССР и основы с.-х. политики—50 к.

2) Мероприятия по землеустройству, переселению, сельскому строительству, мелиорации, культур-технике и торфу—70 к.

3) Агрономическая сеть БССР и перспективы ее развития—60 к.

4) Мероприятия по государственным Земельным Имуществам БССР—80 к.

5) Мероприятия по ветеринарии—10 к.

6) Мероприятия по лесному хозяйству—40 к.

7) С.-х. кооперация и средства производства в деле развития сельского хозяйства БССР—20 к.

8) Баланс сельского хозяйства БССР и финансирование на 1925-30 год—25 к.

Заказы накіроўваць—Менск, Савецкая 71, Выдавецтву НКЗ.